# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 47 (257) 26 лістапада — 2 снежня 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ

КНІЖКА БЕЛАРУСКАЯ стар. 3

ЗАЛАТЫЯ ФАНФАРЫ ШЛЯГЕРА стар. 4

МАСТЫХІН стар. 5

КАЛЯДНЫЯ ВАРОЖБЫ стар. 6

# МАРЫЯ ЗАХАРЭВІЧ: "ГАДЫ ПРАЛЯЦЕЛІ, ЯК ПТУШКІ..."

***Восень. Лістапад. Панурае неба. Зацягнута шэрымі хмарамі. Дожджык, холадна і няўтульна... Менавіта ў такі час нарадзілася народная артыстка Беларусі Марыя Георгіеўна Захарэвіч — цудоўнай душы чалавек і таленавіты майстар у сваёй прафесіі. Магчыма, гэта восеньская пара заклала ў гэтым дзівосным чалавеку той непаўторны спакой, тую нейкую асаблівую мудрасць і веліч, якія адчуваюцца ў кожным яе руху, у кожным паглядзе яе добрых і ласкавых вачэй. Яна падобная да зіхатлівага сонейка, якое з'явілася ў гэты восеньскі час, каб свяціць людзям і радаваць іх сваім існаваннем. Такога чалавека магла нарадзіць і выхаваць толькі беларуская вёска з яе векавымі традыцыямі і народнай мудрасцю, а таксама добрыя і бязмежна ўлюбёныя ў сваё дзіця бацькі. Я слухала яе голас, глядзела ў яе вочы, і мне падумалася, што Марыя Георгіеўна яскрава ўвасабляе сабой вобраз беларускай жанчыны, такой спакойнай і цярплівай, ад якой ідзе магічная энергія дабра і цеплыні. Такое ўражанне склалася ў мяне ад сустрэчы з Марыяй Георгіеўнай Захарэвіч, сустрэчы, якую я запомню на ўсё жыццё...***



**— Марыя Георгіеўна, раскажыце, калі ласка, пра сваё дзяцінства. Дзе Вы нарадзіліся, хто былі Вашыя бацькі, якія ўвогуле засталіся ўспаміны аб той пары?**

— Мама мне сапраўды расказвала, што я нарадзілася ў такі дзень: туман, імгла, дождж, цёмна, вось так, як у вёсцы даўней было, ды і цяпер. Я нарадзілася ў вёсцы Навасёлкі Мядзельскага раёна, зараз ужо вёска называецца Мядзель, але для мяне яна ўсё роўна застаецца Навасёлкамі. Наша хата згарэла, і бацьку прыйшлося будаваць аднаму на нішчымніцы новую хату. Чаго гэта каштавала, можна ўявіць сабе, бо жыццё было вельмі цяжкое, складанае. Але я шчаслівая, што нарадзілася на вёсцы, таму што я вельмі люблю гэтых людзей і іх сапраўды ёсць за што любіць. Я думаю, што ўсё тое, што я атрымала, так бы мовіць, у падарунак, у загашнік сваёй душы, — гэта ад тых людзей, ад мамы, ад таты. Я ў сваім доме ніколі не чула дрэннага слова. І я памятаю сваіх цётак, вельмі набожных, якія маліліся і кожную нядзелю хадзілі ў царкву. І іх павучэнні таксама помню. Калі ідзеш, а на дарозе каменьчык ляжыць ці кавалачак шкла, абавязкова цётка спыніцца, прыбярэ і скажа: "Заўсёды прыбірай, а то нехта будзе ісці і нагу праколе". І мне гэта ўсё запала. Помню песні мамы, як яна ўспамінала сваю маладосць. Канешне, маладосць для кожнага — гэта светлая пара, якой бы яна цяжкай ні была, і пра тыя гады ў самым канцы жыцця ў мамы былі самы светлы ўспамін.

*(Заканчэнне на стар. 8)*

# НАТАТНІК ТЫДНЯ

## ЯШЧЭ АДНА КОНКУРСНАЯ СТАЛІЦА

Сапраўдным святам душы і сэрца для мінчан стала першая дэкада лістапада 1996 г. Першы ў Беларусі міжнародны конкурс піяністаў усхваляваў не толькі музыкантаў-прафесіяналаў, але і гарачых прыхільнікаў сур'ёзнай музыкі. Ужо самыя першыя дні конкурсу паказалі высокі ўзровень прафесіяналізму маладых выканаўцаў. Аб гэтым гаварылі не толькі ўдзельнікі конкурсу, якія не чакалі такой сур'ёзнай барацьбы, але і самі члены журы. На пытанне аб тым, які агульны ўзровень падрыхтоўкі ўдзельнікаў, В.Мяржанаў адказаў: "Добры ўзровень. Многа цікавых і таленавітых выканаўцаў. Дастаткова вялікі працэнт яркіх індывідуальнасцей, каб лічыць конкурс моцным".

Прыемнай падзеяй фестывалю стаў візіт галандца Густава Алінка. Гэты чалавек — ініцыятар стварэння і публікацыі каталога ўсіх конкурсаў свету. Густаў Алінк прадставіў рэкамендацыю, якая была падпісана самой Мартай Аргерых.

"Не чакаў еўрапейскага ўзроўню конкурсу", — сказаў пан Алінк пасля праслухоўвання І тура гэтага творчага мерапрыемства. Ён мае намер уключыць Беларускі міжнародны конкурс у свой пяты том каталога, які выйдзе з друку ўжо ў лютым 1997 г. Гэты факт дае нам упэўненасць у тым, што аб конкурсе не проста даведаюцца ва ўсім свеце, але ён таксама будзе мець адзнаку прэстыжнага творчага спаборніцтва.

Таксама як і ўзровень выканаўцаў, быў прафесійны і ўзровень арганізацыі конкурсу. Па словах В.Мяржанава, "конкурс аказаўся вельмі сур'ёзным і, на шчасце, не ператварыўся ў звычайнае спартыўнае мерапрыемства. І ў гэтым велізарная заслуга яго арганізатараў". Прафесар Латвійскай акадэміі музыкі Арніс Зандманіс адзначыў: "Добрая арганізацыя. Мы адчуваем шчыры клопат. Зразумела, ёсць некаторыя памылкі, але гэта непазбежна. Гэта ж першы конкурс". Вялікім клопатам з боку арганізацыйнага камітэта і яго дырэктара-распарадчыка Г.Вагнер былі абкружаны ўсе ўдзельнікі конкурсу. Наогул трэба аддаць належнае Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Гэтая бюджэтная арганізацыя па сутнасці спыніла ўсю канцэртную дзейнасць на 12 дзён, дала бясплатны сімфанічны аркестр, арэнду залы з 7 да 24 гадзін, бясплатнае правядзенне І тура. Маладыя выканаўцы атрымалі цудоўную вялікую залу, добрыя інструменты і магчымасць займець вопыт. Безумоўна, калі б было больш спонсараў у конкурсу, былі б і большыя прэміі. І больш саміх прэмій і ўзнагарод. Але можна з упэўненасцю сказаць, што ніводны канкурсант не быў абдзелены ўвагай. Усім удзельнікам ІІ тура былі ўручаны падарункі; акрамя трох асноўных прэмій былі і заахвочвальныя. Лаўрэатамі прэмій сталі: першая — Андрэй Сікорскі (Расія); другая — Іосіф Сяргей (Беларусь); трэцяя — Тамара Санікідзэ (Грузія). Словам, насуперак вядомай прымаўцы "першы блін заўсёды комам", наш конкурс усё ж такі ўдаўся на славу.

Апошнім часам змянілася і ўстойлівая мадэль конкурсу. Ну што ж, час немагчыма павярнуць назад, і трэба прыстасоўвацца да новых умоў. Безумоўна, конкурс — важная падзея і для ўдзельнікаў, і для грамадскасці. Самае галоўнае, што гэта адбылося менавіта ў Мінску, у сталіцы Беларусі. Калі конкурс праходзіць у Маскве, Варшаве, Барселоне і іншых гарадах, мінчане не могуць адчуваць непаўторны водар атмасферы конкурсу. На шчасце, з 1996 г. у нас з'явілася такая магчымасць. Гэтая падзея дае моцны штуршок да культурнага развіцця краіны, узбагачае і далучае людзей да самых лепшых узораў класічнай музыкі. "Конкурс — гэта лепшыя лекі ад пошласці, якую дэманструюць нам тэлебачанне і радыё. Гэта лепшы сродак духоўнага ўзбагачэння моладзі", — адзначыў напрыканцы нашай гаворкі В.Мяржанаў.

**Аксана КРАСНІК**

## ЦІ ЛЮБІЦЕ ВЫ ТЭАТР?

Афіцыйны тэатральны бамонд амаль на тыдзень пакінуў сталіцу, каб узяць удзел у святочных днях у Віцебску, прысвечаных 70-годдзю Беларускага акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. І не дзіва! Павіншаваць калег прыехалі і сталічныя тэатры са сваімі вядомымі пастаноўкамі: Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паказаў "Ромула Вялікага", Дзяржаўны рускі акадэмічны тэатр РБ — "Букеева і кампанію". А самі юбіляры парадавалі гасцей і віцяблян прэм'ерай Валерыя Маслюка "Час быка". Адным словам, крытыкам і прэсе будзе над чым папрацаваць, бо тэатральнае свята — гэта не толькі прэм'еры, але і ўспаміны старэйшых майстроў сцэны, сустрэчы сяброў, дый увогуле атмасфера свята вымушае перш-наперш азірнуцца і... на гардэроб. Дарэчы, менавіта ў Віцебску я ўпершыню за апошнія 20 гадоў убачыла публіку, якая пераабуваецца ў вечаровы абутак у гардэробе тэатра! Аднойчы мне падалося, што наш мітуслівы час нарадзіў новых урбаністаў, якім ужо не дадзена пачуць скрыпача са знакамітай карціны Марка Шагала, а мастацкія ўражанні замяняюць камп'ютэрны азарт. Не, сябры, ў Віцебску я, закончаная урбаністка, уцяміла: публіка — гэта таксама мастацтва тэатральнага грамадства, толькі ёй дэкаданс ніколі не пагражаў.

Што да рэцэнзій на спектаклі, якія прайшлі на ІІ сцэне Беларусі, то рубрыка "КІТТ" штотыднёвіка плануе надрукаваць іх у снежні.

Сапраўдныя страсці разыграліся падчас навукова-творчай канферэнцыі "Беларускае акцёрскае мастацтва: Шляхі станаўлення і развіцця ў кантэксце еўрапейскіх сцэнічных культур". Канферэнцыю правадзіў Цэнтр тэатральнай крытыкі Беларусі "Авансцэна" ў два дні. У ёй таксама брала ўдзел дэлегацыя сектара сусветнага тэатра Савета Еўропы, толькі замежныя госці з'ехалі значна раней, чым хацелася б. Вось паглядзіце: асноўныя даклады, як я лічу, якія канкрэтна і поўна раскрываюць пытанні Беларускай тэатральнай школы, былі прачытаныя аўдыторыі без удзельнікаў СЕ. А шкада! Шкада, што даклад доктара філасофскіх навук спадара Салеева "Акцёрскае мастацтва: тыпалогія ўсходнеславянскіх традыцый" так і не данёс пэўных рыс, прозвішчаў акцёраў, тэндэнцый беларускай тэатральнай школы. Магчыма, надта па-філасофску падышоў вядомы крытык. Падалося, што даклад — тэарэтычны падмурак новага тэатра ў мастацтве — "Абстрактная абсурдэлька". Толькі мяне, як іншых калег, цікавіць адно пытанне: ці любіце вы тэатр увогуле, спадары крытыкі? Чаму ж так не паважаеце сваіх калег? Напрыклад, цікавы даклад кандыдата мастацтвазнаўства, выкладчыка Беларускай акадэміі мастацтваў Таццяны Рабыльскай: "Акцёр і рэжысёр: Праблемы ўзаемадзеяння на беларускай сцэне" выклікаў дзіўную рэакцыю некаторых крытыкаў, сапраўды праілюстраваўшы "праблемы ўзаемадзеяння"... Адны — тэатральна "з выхадам" бразнулі дзвярыма, другія пашкалярску, нібы з галёркі, падавалі рэплікі. Прабачце, куды ж славутая, абяцаная дыскусія падзелася? А высокі слог мастацтва?

Адным словам, Віцебск падарыў крытыкам — канферэнцыю, гледачам — мастацтва тэатра. На Беларусі, спадзяюся, жыве сапраўдны глядач, якому патрабуюцца высакакласныя пастаноўкі. Асабліва віцяблянам, бо яны любяць тэатр. А вы?

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

## "СЛАВЯНСКІ БАЗАР-97"

Рэдакцыя газеты "Культура" атрымала ліст з Віцебска, у якім Генеральная дырэкцыя Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар" выказвае шчырую ўдзячнасць нашаму калектыву за аб'ектыўнае і поўнае асвятленне падзей фестывалю 1996 года. "Майстэрства Вашых журналістаў данесла да шырокіх колаў чытачоў найбольш значныя ідэі "Славянскага базару": аб'яднанне славянскіх народаў праз культуру і творчыя сувязі, абмен дасягненнямі ў дзелавой і культурнай сферы, прадстаўленне "пуцёўкі ў жыццё" маладым перспектыўным выканаўцам папулярнай песні, — гаворыцца ў лісце. — Спадзяемся, што творчая і разняволеная атмасфера, што панавала ў міжнародным Прэс-цэнтры падчас фестывалю, надоўга запомніцца Вашым журналістам перадусім магчымасцю шырокіх стасункаў з творчымі, неардынарнымі людзьмі — удзельнікамі фестывалю, а таксама з "братамі па пяры" з краін Садружнасці і іншых краін свету.

Незабыўныя дні і ночы фестывалю абавязкова паўторацца ў наступным, 1997 годзе. Арганізатар фестывалю — Генеральная дырэкцыя — рада паведаміць Вам, што VI Міжнародны фестываль мастацтваў адбудзецца ў сваім традыцыйным горадзе — Віцебску — з 10 па 16 ліпеня 1997 года.

Генеральная дырэкцыя фестывалю спадзяецца, што на старонках Вашага выдання і ў будучым будуць публікавацца інфармацыйныя паведамленні і аналітычныя развагі з нагоды такой унікальнай падзеі ў культурным жыцці славянскіх дзяржаў, як Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар". Са свайго боку, Дырэкцыя фестывалю пастаянна гатовая да шчырага дыялога з Вашымі чытачамі, не хаваючы непазбежных цяжкасцей у арганізацыі такога грандыёзнага праекта, як гэты фестываль.

Ужо сёння вядзецца падрыхтоўка да фестывалю 1997 года і праца па далейшай мадэрнізацыі Прэс-цэнтра з выкарыстаннем камп'ютэрнага і сотавага забеспячэння сусветнага лідэра ў галіне камп'ютэрных тэхналогій — фірмы "COMPAQ". Акрэдытаваныя журналісты Вашага выдання будуць мець магчымасць карыстацца сучаснай сувяззю і надзейнай камп'ютэрнай тэхнікай.

Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар-97" будзе мець традыцыйна найцікавейшую і шырокую праграму, дзе будуць прадстаўлены большасць відаў і жанраў творчасці славянскіх народаў. Асноўнай падзеяй фестывалю застаецца міжнародны конкурс маладых выканаўцаў папулярнай песні, у Палажэнне пра які ўнесены пэўныя змены, якія скіраваны на пашырэнне творчых магчымасцей выканаўцаў і гарантуюць аб'ектыўнасць журы.

Генеральная дырэкцыя фестывалю спадзяецца, што нашае творчае супрацоўніцтва працягнецца на ўсіх наступных фестывалях "Славянскі базар", маючы на мэце ўмацаванне гуманістычных ідэалаў, далейшае збліжэнне і ўзаемнае ўзбагачэнне славянскіх культур. З інфармацыяй, што датычыць падрыхтоўкі да VI Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар" можна азнаёміцца ў прэс-службе Генеральнай дырэкцыі: тэлефон (0212) 364-437, факс (0212) 374-949".

## БЯСПЛАТНАЕ КІНО АД "ФІЛІП МОРЫС"

З 25 па 28 лістапада ў тэатральнай зале Палаца культуры прафсаюзаў праходзіць рэтраспектыўны паказ фільмаў брытанскіх рэжысёраў — найбольш папулярных прадстаўнікоў аўтарскага кінематографа Аб'яднанага каралеўства. Праграма наладжана "Кінаклубам" пры спонсарскім удзеле кінакампаніі "Філіп Морыс", які падтрымлівае шмат яркіх культурных ініцыятываў ва ўсім свеце. На бясплатныя сеансы фільмаў, прадстаўленых Брытанскім Саветам, запрашаюцца ўсе, каго цікавіць памяркоўная плынь брытанскага кінаавангарда. Дарэчы, частка праграмы ідзе без перакладу.

На пачатку тыдня адбыўся паказ фільмаў Тэры Гільяма "Прыгоды барона Мюнхгаўзена" (эфектная рэжысёрская імправізацыя ў стылі знакамітага барона), а таксама "Бразілія" (фантастычная чорная камедыя ў стылі Джорджа Оруэла). У сераду, 27 лістапада, дэманструюцца стужкі Ніла Джордана "У кампаніі ваўкоў" (дэкадэнцкая казка для дарослых, высокапрафесійны начны кашмар — 19.00, з перакладам) і Дэвіда Лінча "Чалавек-слон" (гісторыя пачварнага целам і прыгожага душой чалавека — 21.00, без перакладу). Завяршаецца праграма 28 лістапада фільмам Ніла Джордана "Мона Ліза" (стыльны псіхалагічны трылер, змрочная фантазія пра змаганне чалавека з сіламі цемры — 21.00, з перакладам).

**Ю.Б. — С.С.**

## ВЫРАТУЕ МАСТАЦТВА

1 снежня — Сусветны дзень прафілактыкі СНІД. У гэты дзень ва ўсіх краінах праводзіцца шэраг мерапрыемстваў. Пяты год запар Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІД сумесна з Міністэрствам культуры традыцыйна праводзяць дабрачынную акцыю "Дзеячы культуры, мастацтва і творчая моладзь супраць СНІД". У Мінску ў Палацы дзяцей і моладзі адбудзецца забаўляльна-гульнёвае відовішча для моладзі з удзелам вядучых маладых выканаўцаў, у кінатэатрах "Масква", "Піянер", "Кастрычнік", "Вільнюс", у парку "Чалюскінцаў", фестывальным цэнтры "Акварыум", дыскацэнтры "Амкадор", у Доме культуры "Юнацтва" будуць арганізаваныя дыскатэкі для старшакласнікаў і студэнтаў, у тэатрах сталіцы пройдуць спектаклі, студэнцкія фестывалі з удзелам самадзейных калектываў ВНУ сталіцы. У педагагічным універсітэце пройдзе канцэрт рок-групы "Ляпис Трубецкой" супраць СНІД".

У кінатэатрах будзе арганізаваны паказ мастацкіх фільмаў, у відэасалоне "Галактыка" — тэматычных відэакліпаў. У дзіцячых бібліятэках пройдуць агляды для старшакласнікаў па прафілактыцы гэтай страшнай хваробы.

Аналагічныя мерапрыемствы пройдуць і ў абласных цэнтрах. Рэспубліканскі цэнтр прафілактыкі СНІД спадзяецца, што праведзеныя мерапрыемствы дапамогуць шырока інфармаваць насельніцтва рэспублікі па праблеме СНІД.

## ЗАХАВАЛЬНІК ЛІТАРАТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ

Літаратурны музей Петруся Броўкі правёў вечарыну, прысвечаную 60-годдзю з дня нараджэння нязменнага яго дырэктара, сына славутага песняра Юрыя Пятровіча Броўкі. На працягу многіх гадоў вядомы ў рэспубліцы юрыст спалучаў навуковую і выкладчыцкую працу з клопатам пра збор і захаванне літаратурнай спадчыны бацькі. Дзякуючы яго намаганням створана цікавая музейная экспазіцыя ў Мінску, адноўлена сяліба на радзіме Петруся Броўкі ў Пуцілкавічах, выдадзены збор твораў паэта ў 9 тамах.

Цёплымі словамі віталі героя ўрачыстасці начальнік аддзела музеяў і выстаў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Сяргей Маслоўскі, дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь Леанід Хадкевіч, сакратар Саюза беларускіх пісьменнікаў Алесь Пісьмянкоў, галоўны рэдактар выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя П.У.Броўкі Генадзь Пашкоў, літаратуразнавец Міхась Мушынскі, галоўны рэдактар газеты "Культура" Алег Камінскі, калегі, сябры і блізкія юбіляра.

За важкі ўклад у развіццё музейнай справы па захаванні літаратурнай спадчыны на Беларусі Ю.П. Броўку ўручаны Ганаровы дыплом грамадска-асветніцкай газеты "Культура". Трэба адзначыць, што сярод музейных работнікаў ён першы атрымаў такую ўзнагароду.

**Наш кар.**



*На здымку: юбіляра віншуе дырэктар Аб'яднання літаратурных музеяў Рэспублікі Беларусь Леанід Хадкевіч.*

## ЛЮДЗІ, ЯК ЗОРКІ

Ёсць людзі, як зоркі, якія асвятляюць наш шлях асаблівым святлом энергіі, дзейнасці, дабрыні. І ёсць нагоды, калі можна ім выказаць шчырыя сардэчныя словы ўдзячнасці. Анатолю Андрэевічу Філіповічу, дырэктару Беларускага ліцэя мастацтваў, 60 гадоў. Большасць з іх — гады напружанай творчай працы.

Пасля заканчэння Магілёўскага музычнага вучылішча і Беларускай кансерваторыі імя Луначарскага Анатоль Андрэевіч працаваў старшым інспектарам Упраўлення школ, інспектарам-метадыстам выхаваўча-метадычнага аддзела Упраўлення школ Міністэрства асветы РБ. На гэтай пасадзе ён прымае актыўны ўдзел у арганізацыі музычных і мастацкіх школ у Беларусі, пад яго кіраўніцтвам створаны шматлікія дзіцячыя харавыя студыі, сярэднія школы з музычным і архітэктурна-мастацкім ухілам. Шмат увагі аддаваў таксама Анатоль Андрэевіч у гэты час падрыхтоўцы арыгінальных праграм і вучэбных дапаможнікаў па спевах.

Ужо 15 гадоў кіруе А.Філіповіч Беларускім ліцэем мастацтваў. І вось плённыя вынікі: многія з выпускнікоў ліцэя сталі лаўрэатамі міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў маладых выканаўцаў. Усе яны, а таксама калегі па рабоце ў Беларускім ліцэі мастацтваў сардэчна віншуюць Анатоля Андрэевіча з юбілеем, зычаць здароўя і яшчэ многіх гадоў плённай працы на ніве беларускай культуры.

***Калектыў газеты "Культура" далучаецца да віншаванняў калег і дасылае самыя лепшыя пажаданні ў адрас юбіляра.***

## ЦЁПЛЫЯ ЎРАЖАННІ

У Літаратурным музеі Петруся Броўкі ўсталявалася добрая традыцыя праводзіць культурна-асветныя мерапрыемствы ў воінскіх часцях. У мінулым годзе музею была ўручана Грамата Міністэрства абароны за культурна-шэфскую работу сярод вайскоўцаў. Лірычныя вершы П.Броўкі, песні на яго словы гучаць у воінскіх клубах і сёлета.

Напрыклад, 3 лістапада з дапамогай метадычнага аддзела Цэнтральнага Дома афіцэраў было праведзена цікавае мерапрыемства ў воінскай часці, размешчанай недалёка ад Мінска. Маладыя воіны з цікавасцю праслухалі паведамленне літаратуразнаўца М.І.Пратасевіча аб асаблівасцях паэзіі Петруся Броўкі, глыбокалірычнай, філасафічнай і маладой. Выступоўца прачытаў і некалькі вершаў паэта, адрасаваных моладзі.

Усхвалявала слухачоў і выступленне паважанага ўдзельніка гэтай сустрэчы, вядомага беларускага паэта, сакратара Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзіміра Паўлава, які прачытаў свае вершы, у тым ліку і прысвечаныя Петрусю Броўку.

Удзельнікі народнага ансамбля "Менскі гармонік" выканалі новыя песні на вершы П.Броўкі "Роднае слова", "А ты ідзі" і некалькі песень на словы самога кампазітара і кіраўніка ансамбля "Менскі гармонік" І.Раманчука.

У вайскоўцаў засталіся цёплыя, эмацыянальныя ўражанні ад гэтага мерапрыемства.

**М.СТАФАНОВІЧ**

## ВІНШУЕМ!

Споўнілася 75 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага маэстра Віктара Уладзіміравіча Роўды. Лепшыя творы Акадэмічнага хору Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі, якім шмат гадоў кіруе Віктар Роўда, па праве ўвайшлі ў залатую скарбонку сусветнага музычнага мастацтва.

***Калектыў газеты "Культура" зычыць юбіляру моцнага здароўя, новых поспехаў, творчага плёну.***

СІТУАЦЫЯ

# КНІЖКА БЕЛАРУСКАЯ...

***Колькасць выданняў і тыраж кніг на нацыянальнай мове былі ў Беларусі на адным з апошніх месцаў сярод рэспублік былога Савецкага Саюза. Цяжка паверыць, але тэмпы выдання беларускамоўнай літаратуры так і не дасягнулі паказчыкаў 30-х гадоў, на якія прыпадае найвышэйшы ўсплеск выдавецкай актыўнасці на розных нацыянальных (не толькі беларускай) мовах. Адраджэнне роднай мовы немагчыма пачаць без звароту да кнігі. Яна — квінтэсенцыя духоўных пошукаў нацыі і рэальны носьбіт мовы. Прыгадаем з адвечнага: "Спачатку было слова"...***

У Беларусі кніжная культура мае глыбокія і даўнія карані: беларускае Адраджэнне, пачынаючы ад сваіх вытокаў і да апошняга часу, было заўсёды непарыўна злучана з кнігай. І ў нашы дні робіцца спроба менавіта праз яе пачаць вяртанне да жыцця і мовы, і цікавасці да спадчыны; сучасныя выданні даюць чытачам магчымасць даведацца пра сапраўдныя падзеі гісторыі, рэабілітаваць зняважаныя імёны, параўнаць розныя ацэнкі лёсу нашага народа. Ажыўленне тэмпаў выдання беларускамоўнай літаратуры дае падставу стварыць зараз у рэспубліцы сучасную базу чытання на нацыянальнай мове.

Наш асаблівы клопат у гэтай сітуацыі — дзеці. Вынікі даследаванняў пацвярджаюць, што асновы адносін да чытання ўвогуле і да чытання на роднай мове ў прыватнасці закладваюцца пераважна ў дзяцінстве. Сітуацыя, якая склалася ў нашым грамадстве з чытаннем літаратуры на беларускай мове, адбілася і на коле чытання дзяцей і падлеткаў. У 1996 г. праводзілася сацыялагічнае даследаванне аб месцы беларускай кнігі ў чытанні школьнікаў. У якасці даследчага палігона была выкарыстана Цэнтралізаваная сістэма дзіцячых бібліятэк (ЦДБС) г. Мінска, якая сёння аб'ядноўвае 14 дзіцячых бібліятэк. Як сведчыць анкетаванне, амаль 80 працэнтаў мінскіх школьнікаў пастаянна чытаюць кнігі на беларускай мове. Высветлілася, што большасць запытаў чытачоў абумоўлена заданнямі настаўнікаў. Акрамя таго, на выбар чытання ўплывае ступень валодання беларускай мовай, вядомасць пэўнага аўтара ці твора, "прэстыж" кнігі сярод сяброў і тэматыка твораў. Больш прыхільна да беларускамоўнай літаратуры ставяцца тыя дзеці, у асяроддзі ці сем'ях якіх беларуская мова засталася моваю зносін паміж людзьмі, у тым ліку ў многіх сем'ях творчай інтэлігенцыі. Вынік нашага даследавання сведчыць аб тым, што апошнім часам запыты чытачоў пашырыліся ў сувязі са з'яўленнем новых праграм па беларускай мове, літаратуры і гісторыі. Сёння творы беларускіх пісьменнікаў большасць наведнікаў дзіцячых бібліятэк пачала чытаць па-беларуску. Але творы сусветнай літаратуры школьнікі па-ранейшаму чытаюць на рускай мове, таму што так лягчэй і хутчэй. Трэба адзначыць, што навучэнцы беларускамоўных класаў або дзеці, якія раней наведвалі беларускі дзіцячы садок, больш любяць кніжкі па-беларуску і тлумачаць гэта тымі ж прычынамі: лёгкасцю, звыкласцю, хуткасцю.

Цікава, што дзеці менавіта малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту аддаюць перавагу кнігам, якія напісаны на беларускай мове, з задавальненнем чытаюць іх і паза праграмай. Галоўны крытэрый тут — цікавая кніжка ці не. Выявілася, што больш за іншых дзецям падабаюцца творы Э.Агняцвет, А.Васілевіч, В.Віткі, Н.Гілевіча, Я.Коласа, М.Лынькова, Я.Маўра, П.Місько, І.Сяркова. Старшакласнікі сярод любімых пісьменнікаў называюць М.Багдановіча, В.Быкава, У.Караткевіча, Я.Коласа і Я.Купалу, І.Мележа, І.Шамякіна. Заўсёды знаходзіць свайго чытача беларуская народная казка, яе чытаюць у свабодную хвіліну школьнікі як малодшых, так і сярэдніх класаў. Вельмі падабаюцца дзецям творы аб жыцці іх аднагодкаў ("Лісцё каштанаў" Ул. Караткевіча, "Прыгоды бульбобаў" П.Місько, "Мы з Санькам..." І.Сяркова), аб прыгодах (творы Я.Маўра), гістарычных падзеях ("След Ваўкалака" Л.Дайнекі, "За морам Хвалынскім" В.Іпатавай). Прыемна, што самыя маленькія чытачы, а таксама падлеткі з'яўляюцца прыхільнікамі сучаснай беларускай паэзіі (вершы А.Пісьмянкова, У.Мацвеенкі, Р.Барадуліна, В.Аколавай, Т.Бондар, Р.Баравіковай). Чытачы дзіцячых бібліятэк мараць быць падобнымі да сваіх любімых літаратурных герояў, сярод якіх, напрыклад, Міколка-паравоз ці Алесь Загорскі з "Каласоў пад сярпом тваім" Ул.Караткевіча.

Пазітыўныя зрухі ў адносінах да чытання на роднай мове адбыліся пасля з'яўлення на пачатку 90-х гадоў у рэспубліцы "Закону аб мовах" і комплекснай праграмы адраджэння нацыянальнай культуры пад назвай "Спадчына". Правядзенне рэферэндуму аб двухмоўі пакуль непасрэдным чынам не адбілася на дзейнасці бібліятэк і чытанні дзяцей. Але за гэты год на Беларусі ўжо значна скарацілася колькасць беларускамоўных класаў і школ. Так, напрыклад, у Мінску зараз засталося толькі 5 школ з беларускай мовай навучання. Гэта, безумоўна, трывожны факт, калі мець на ўвазе, што менавіта падрастаючае пакаленне з'яўляецца пераемнікам мовы і культурнай спадчыны мінулага.

У рамках даследавання высветлілася, што вучні звычайна звяртаюцца ў бібліятэку адзін раз на месяц і бяруць для чытання 3-4 кнігі. Змест і тэматыка не заўсёды задавальняе маленькіх чытачоў. Так, на жаль, многія з іх адзначылі, што часта не хапае патрэбнай літаратуры па школьнай праграме чытання, прычым як твораў мастацкай, так і навукова-пазнавальнай літаратуры.

Аб недахопе беларускай літаратуры добра ведаюць і бібліятэкары, якія працуюць з дзецьмі. Так, мінскія бібліятэкары-практыкі сведчаць, што, з аднаго боку, у апошнія гады прыкметна ўзрасла чытацкая актыўнасць і ўскладніліся запыты чытачоў. А з другога — у фондах бібліятэк адсутнічаюць сучасныя, тэрмінова неабходныя ім выданні. У параўнанні з іншымі бібліятэкамі Беларусі ў дзіцячых бібліятэках праблемы наяўнасці беларускай кнігі стаяць яшчэ больш востра. Асноўнай застаецца "вечная" праблема недастатковага дзяржаўнага фінансавання. Асаблівасць такога становішча ў тым, што яно не толькі не паляпшаецца, а з цягам часу толькі пагаршаецца. Большасць дзіцячых бібліятэк цяпер толькі раз ці два на год атрымлівае невялічкія партыі новых кніг, сярод якіх пераважную большасць складае дублетная літаратура.




Бібліятэкары занепакоены тым, што не хапае многіх мастацкіх твораў, кніг па гісторыі, геаграфіі, краязнаўстве, мова- і літаратуразнаўстве, культуры і мастацтве Беларусі. Асобная праблема — адсутнасць перакладных слоўнікаў, даведнікаў, галіновых энцыклапедый, без якіх немагчыма далучэнне да чытання на роднай мове. На паліцах бібліятэк па сённяшні дзень няма выданняў для дзяцей малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту пра такіх стаўпоў культуры, асветнікаў зямлі беларускай, як Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Васіль Цяпінскі, Сымон Будны. Востры недахоп кніг менавіта для гэтых узроставых груп па мастацтве, пра гісторыю беларускіх гарадоў, народныя святы і абрады, жыццё далёкіх продкаў. Асаблівыя цяжкасці ўзнікаюць у сувязі са з'яўленнем новых падручнікаў па гісторыі Беларусі: яны складзены такім чынам, што змяшчаюць амаль адны пытанні, адказы на якія малым прапануецца адшукаць самастойна. А ў бібліятэках патрэбнай для гэтага літаратуры катастрафічна не хапае. Нашы чытачы-старшакласнікі скардзяцца на адсутнасць сучасных выданняў аб складаных момантах айчыннай гісторыі і па літаратуразнаўстве. Усе чытачы без выключэння адчуваюць "кніжны голад" на мастацкія творы, якія патрабуе новая школьная праграма па беларускай літаратуры.




Прыемна адзначыць, што апошнім часам дзякуючы сувязям бібліятэк і выдавецтваў сітуацыя пачала мяняцца да лепшага. Так, Нацыянальнай бібліятэкай Беларусі складзены спіс лепшых твораў беларускай дзіцячай літаратуры і, згодна з ім, зараз выходзіць з друку нямала патрэбных нашым чытачам выданняў.

На сёння беларускамоўная літаратура складае 17,5 працэнта фондаў бібліятэк. Гэта, вядома, невялікая лічба. Але калі б змест кніг быў больш сучасным і адпавядаў сённяшнім запытам чытачоў, такое становішча, улічваючы эканамічныя цяжкасці, можна было б лічыць часова задавальняючым. На мой погляд, удалы прыклад удумлівага камплектавання падае ЦДБС г.Мінска. Тут фонд беларускамоўнай літаратуры пастаянна абнаўляецца і расце. Бібліятэкары прыкладаюць шмат намаганняў, каб вырашыць фінансавыя праблемы. Не маючы магчымасці палепшыць эканамічнае становішча шляхам увядзення платных паслуг з-за таго, што яе чытачамі з'яўляюцца малыя дзеці, ЦДБС знаходзіць сродкі, каб пастаянна радаваць наведнікаў навінкамі айчыннага кнігавыдання. Пэўны прыбытак прыносіць здача памяшканняў у арэнду. Улічваючы, што бібліятэкі не толькі не маюць свабодных плошчаў, але і самі пакутуюць ад іх недахопу, ЦДБС здае свае залы на вячэрні час. Пастаянна адбываюцца дабрачынныя мерапрыемствы: разнастайныя творчыя сустрэчы, канцэрты, выставы...




Зараз камплектаванне дзіцячых бібліятэк цалкам апіраецца на рэспубліканскую выдавецкую базу. У апошнія гады колькасць выдадзеных кніг як на беларускай, так і на рускай мовах, а таксама іх наклады ў значнай ступені зменшыліся. Колькасць беларускамоўных выданняў перавышае колькасць рускамоўных, але наклады яны маюць значна меншыя. Такія рэспубліканскія выдавецтвы, як "Юнацтва" і "Народная асвета", якія спецыялізуюцца на кнігах для дзяцей, рэзка скарацілі выпуск літаратуры. Відавочна, што выданне кніг, прызначаных для дзяцей, недастатковае. У той жа час яно залежыць ад многіх фактараў і не існуе само па сабе. Попыт на прадукцыю выдавецтваў шчыльна звязаны з узроўнем ведання мовы, захаваць яго доўгі час перашкаджала палітыка русіфікацыі, і ў выніку гэта прывяло да страты патрэбы карыстацца роднай мовай. Наклады кніг узаемазвязаны з замовамі на іх з боку гандлюючых устаноў, бібліятэк, школ, асобных пакупнікоў. Атрымліваецца, што попыт на беларускую кнігу з боку адных устаноў (такіх, як кніжны гандаль, пакупнікі) невялікі. А разам з тым іншыя ўстановы адчуваюць пастаянны недахоп выданняў (такія ўстановы, як, напрыклад, школьныя і дзіцячыя бібліятэкі), але не маюць дастатковых фінансавых сродкаў, каб замовіць усю патрэбную іх чытачам літаратуру. Вось і маем "замкнёнае кола" з павелічэннем кнігавыдання на беларускай мове... Адмоўна ўплываюць эканамічныя фактары: разарваны былыя плённыя сувязі, катастрафічна даражэе папера, з году ў год старэюць паліграфічныя прадпрыемствы, а таму штогод павялічваюцца выдаткі з іх боку на выпуск прадукцыі. Добра, што яшчэ застаецца "апошняя саломінка" ў выглядзе льготнага падаткаабкладання беларускамоўнай літаратуры. Па апошніх звестках, доля беларускамоўных выданняў у агульнай выдавецкай плыні складае 24 працэнты па назвах і 21 працэнт па накладах. Ёсць спадзяванні, што ў далейшым беларуская кніга, нягледзячы на эканамічныя перашкоды, здолее захаваць свае пазіцыі. Трэба адзначыць, што сёння хутчэй расце і колькасць беларускамоўнай перыёдыкі, як газет, так і часопісаў. Прыкметай апошніх гадоў стала плённая дзейнасць такіх недзяржаўных выдавецтваў, як "Адраджэнне" (пры Таварыстве беларускай мовы імя Ф.Скарыны), "Экаперспектыва", "Тэхналогія", Беларускага гуманітарнага асветніцка-культурнага цэнтра.









У заключэнне заўважу, што многія праблемы, што зараз стаяць перад бібліятэкарамі, можна вырашыць праз сумесныя намаганні з іншымі ўстановамі. Наладзім трывалыя сувязі з выдавецтвамі — будзем мець, нават без асаблівых фінансавых затрат, сучасны і змястоўны фонд нацыянальнай кнігі. Станем больш цесна супрацоўнічаць са школамі і пазашкольнымі ўстановамі, музеямі і творчымі арганізацыямі — зможам зрабіць больш цікавым і разнастайным вольны час нашых чытачоў. Будзем працаваць разам з краязнаўчымі аб'яднаннямі і народнымі майстрамі — нестандартна аформім памяшканні бібліятэк. Вядома, многае залежыць і ад уласнай актыўнасці. Трэба больш удумліва ставіцца да фармавання фонду мастацкай і краязнаўчай літаратуры, а таксама распрацоўваць і выкарыстоўваць на практыцы новыя формы і метады работы з нацыянальнай кнігай. Бо, як кажуць, выратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў.

**Юлія БОЛАТАВА,**
**аспірантка Беларускага універсітэта культуры.**

## ПАСЛЯ ФЭСТУ

***На адным з магілёўскіх канцэртаў "Залатога шлягера" я адчуў, што ўсё — хопіць! Хопіць атрымліваць асалоду ад сядзення ў зале, трэба пачынаць працаваць за кулісамі. А там сапраўды лётала зусім іншая фестывальная атмасфера. Там адчувалася болей нервознасці, чым весялосці. Але ў той жа самы час за кулісамі жыла своеасаблівая музычная ліра. Ды і самі артысты і кампазітары ўспрымаліся па-за сцэнай зусім у іншым ракурсе. Перад вялікім колам гледачоў спевакі змяняюцца — становяцца хутчэй за ўсё іншымі людзьмі. А тут амаль кожны навідавоку — са сваімі чалавечымі звычкамі. Але гэта, канечне, не самае каштоўнае ў нашых спеваках — абы дарылі нам прыгожыя песні, каб мы адчувалі душэўнае задавальненне. Калі я апынуўся за кулісамі, сваім абавязкам палічыў даведацца ў выступоўцаў, што для іх значыць фестываль "Залаты шлягер".***

# ФЕСТЫВАЛЬНАЕ ЗАКУЛІССЕ

***Народны артыст Беларусі Віктар ВУЯЧЫЧ:***

— Як і для ўсіх нас — свята. Магчымасць сустрэцца з маімі калегамі, сябрамі, абмяняцца інфармацыяй, прадстаць перад гледачамі. Гэта свята!

***Народны артыст СССР Ігар ЛУЧАНОК:***

— На гэтым фестывалі галоўнае — мелодыя. Мелодыя песні. Апошнім часам здзяйсняецца замала падобных мерапрыемстваў, Нярэдка праходзяць нейкія пародыі на фестывалі, дзе спяваюць песні без сэнсу і без мелодыі. А тут вяртанне лепшых мелодый мінулага. Для будучыні. Таму гэта і ёсць культура. Я вельмі цаню Залаты шлягер, класікаў — Эдуарда Хіля, Уладзіміра Трошына, Мусліма Магамаева, Віктара Вуячыча, Тамару Раеўскую. І дарэчы, людзі так і гавораць: мы хочам не маладых, мы хочам гэтых слухаць.

***Народны артыст СССР Юрый БАГАЦІКАЎ:***

— Я на тыдзень трапіў у сваю маладосць.

***Лаўрэат фестывалю Алена ЛАРУШЫНА:***

— Асноўнае тут для мяне — сустрэчы. Знаёмствы з новымі цікавымі, таленавітымі людзьмі. І я вельмі задаволеная, што прымала ўдзел у гэтым конкурсе. Усе перажыванні ўжо як бы ззаду... Але ўсё роўна яшчэ працягваю жыць сваім вечарам перамогі. Я спадзяюся, што на ўсіх наступных канцэртах буду працаваць так, як на сваім галоўным выступленні. Буду старацца паказаць свой музычны ўзровень.

***Дыпламант фестывалю Арцём СУВОРАЎ:***

— Хоць я і не атрымаў сваёй перамогі... Для мяне ўсё ж такі дыплом добры пачатак. Што ні робіцца — усё да лепшага. Я лічу: мае святы наперадзе. А фестываль нібы зыходная кропка для мяне — новыя сябры, новыя ўражанні, гэта заўсёды добра. Нават калі ў пройгрышы застаешся.

***Народны артыст Расіі Эдуард ХІЛЬ:***

— Музычныя фестывалі... гэта акцыя дабрачыннасці ў першую чаргу для нас — выканаўцаў старэйшага пакалення, таму што мы зараз ні ў водным горадзе не маем магчымасці сабрацца разам і выступіць. І потым, другая акцыя дабрачыннасці для тых, хто прынцыпова не хоча наведваць шматлікія тусовачныя канцэрты. Самае галоўнае — людзі любяць гэтыя песні, яны раслі з імі.

Мне спадабаліся маладыя выканаўцы. Яны ўсе розныя, і прыемна, што цягнуцца да шлягера. Значыць, наша жыццё пражыта не дарэмна. Нашы песні спяваюць.

***Народны артыст Расіі Уладзімір ТРОШЫН:***

— Я лічу, што дадзены фестываль вялікая заваёва. Разумным людзям своечасова прыйшла думка арганізаваць гэты феерверк мастацтва, які за сабой нясе не проста шмат добрых песень, а ўздымае той вялікі культурны пласт нашага народа, які забыты і закінуты. Пласт, які з'яўляецца асновай некалькіх дзесяцігоддзяў музычнага жыцця народаў былога СССР. Калі б гэты пласт кануў у забыццё, то было б вельмі балюча і крыўдна, атрымалася б вялізная духоўная страта для ўсіх народаў. І тое, што тут, у гэтым горадзе, гэтай краіне, арганізатары прыдумалі такі фестываль — надзвычай добра. Я думаю, што шмат гарадоў зайздросцяць Магілёву. Тут самае прыгожае з мінулага. І цяпер яно не загіне. Удзельнічаць у гэтай маштабнай справе для мяне — вялікі гонар. У "Залатога шлягера" цудоўная будучыня.





Аляксандр Колкер

Уладзімір Трошын і Віктар Вуячыч





Алег Ціўноў і Вадзім Мулерман


Фота Авеніра ВАЙНШТЭЙНА

***Заслужаны артыст Расіі, артыст тэатра імя Пушкіна Леў БАРАШКАЎ:***

— Для мяне гэта ўсё. Таму што тут сабраліся ўсе мае старыя сябры.

***Народны артыст Расіі, лаўрэат міжнародных конкурсаў, кіраўнік дзіцячага музычнага тэатра г. Холендэйла (ЗША, штат Фларыда) Вадзім МУЛЕРМАН:***

— Па-першае, гэта магчымасць сустрэцца з сябрамі, вярнуцца ў юнацтва, па-другое, гэта магчымасць рэабілітаваць выканаўцаў мінулых гадоў. Народ чакае — ён хоча ўбачыць людзей, з песнямі якіх звязаны гады жыцця. І я шчыра дзякую гледачам і арганізатарам гэтага фестывалю... Я прыеду яшчэ, калі запросяць.

***Заслужаная артыстка Беларусі Нэлі БАГУСЛАЎСКАЯ:***

— Гэты фестываль для мяне — другое нараджэнне. Я шмат гадоў не спявала. Я вельмі баялася... І тут я раптам зразумела, што людзі мяне памятаюць... Я жадаю фестывалю выжыць. Гэта выдатны пачатак.

***Лаўрэат фестывалю Фаік АГАЕЎ:***

— Не здзіўляйцеся, хутчэй за ўсё — адпачынак. Хацелася б, каб "Залаты шлягер" стаў глабальным фестывалем у рамках усёй былой савецкай прасторы. Святам мінулых гадоў — данінай тым зоркам, таму культурнаму пласту. Сярод канкурсантаў адкрыццём для мяне стала Наталля Тамэла — яскравая асоба.

***Заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі Аляксандр КОЛКЕР:***

— Калі б мы не ставіліся з павагай да гэтага фестывалю, калі б нам не падабалася сама задума і сама арганізацыя, мы б ніколі сюды не прыехалі. Што датычыцца конкурсу, як прафесіянал, з веданнем справы магу сказаць: падабраўся вельмі моцны састаў выканаўцаў. На першую прэмію прэтэндавалі адразу некалькі спявачак. Мы збянтэжыліся — такі моцны быў гукарад. Гэта радуе, таму што вельмі часта на конкурсах адна самадзейнасць, ад якой проста зубы ломіць. У гэтым плане тут цудоўна, значыць сабралі таленавітых людзей. Гэта па-першае. Па-другое, вельмі прыемна пабачыць сваіх калег, маіх сяброў, з якімі пражыта жыццё. Уяўляеце, мы быццам бы прайшлі многа-многа дарог разам, многа войнаў, зазналі многа радасці. Гэта і Віця Вуячыч, і Ігар Лучанок — мой калега. Дарэчы, ён вучыўся ў Ленінградскай кансерваторыі. Гэта Эдзік Хіль, з якім мы жывем у адным горадзе, а сустракаемся ў Магілёве і Мінску. Гэта і Юра Багацікаў з Крыма. Гэта Тамара Міянсарава. Вось шкада, што не прыехала Нані Брэгвадзэ, яна была ў мінулым годзе, мы з ёй з задавальненнем паразмаўлялі. І гэты спіс я магу прадоўжыць. Вось Мулерман Вадзік прыехаў з Амерыкі, якая радасць — столькі разам пражыта. Гэта другое, што вельмі радуе. Мы жывем усе ў адным гатэлі, мы ўвесь час сустракаемся, жартуем, разыгрываем адзін аднаго. Сустракаюць нас на найвышэйшым узроўні. Калі мне хтосьці скажа, што Беларусь не багатая краіна, я не паверу. Нас цудоўна сустракаюць, прывячаюць, харчуюць. Мы жывем у раскошных нумарах, у нас у кожнага свой аўтамабіль. Паверце мне — мы ўсе ў добрым настроі. Калі чалавек з добрым настроем выходзіць на сцэну, гэта перадаецца зале.

**Пачуў за кулісамі**
**Зміцер ВОЛКАЎ**

# МАСТЫХІН




## ПАСТЭЛІ ПЯТРА ДУРЧЫНА

Заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі Пётр Дурчын увайшоў у мастацтва перадусім апяваючы подзвіг абаронцаў Брэсцкай крэпасці. Графічныя партрэты герояў, мемарыяльныя пейзажы і кампазіцыі экспанаваліся на працягу амаль 40 гадоў на дзесятках мастацкіх выставаў у многіх краінах свету.

Аднак на выставе ў мінскім Палацы мастацтва Дурчын прадставіў, у асноўным, паэтычныя пейзажы і нацюрморты, выкананыя ў тэхніцы пастэлі. Ён — адзін з нешматлікіх беларускіх майстроў, які працуе ў гэтым матэрыяле трывала, бо лічыць, што "пастэль хавае ў сабе велізарныя пластычныя магчымасці: чысты, далікатны колер, надзвычайную аксамітнасць, пяшчотнасць гучання. Пастэллю можна дамагчыся не толькі стэрэаскапічнага адчування прасторы, але і многіх, самых нечаканых эфектаў асвятлення". І сапраўды, ісціну гэтых словаў Пётр Сідаравіч бліскуча пацвярджае ў сваіх шматлікіх творах, што апяваюць прыроду МінШчыны і Браслаўшчыны, роднай Мазыршчыны і Прыбалтыкі, вуліцы і плошчы Мінска і архітэктурныя карункі старой Рыгі...

Дурчын піша свабодна, разняволена, лёгка, захоўваючы свежасць непасрэднага адчування, пачуццё пленэрнасці, паветра, і аднначасова цудоўна валодае сакрэтамі рытмікі і дакладнай кампазіцыйнай пабудовы. Матывы твораў мастака, на першы погляд, надзвычай простыя: першы снег і квітнеючы травень, браслаўскі красавік і прыпяцкія дубы, палаючы ў квецені куст бэзу і элегічны куток мінскага парка імя Горкга, барвовае лісце залатой восені і ветраны дзень на Прыпяці, Ратушная плошча ў Рызе і пляц Волі ў нашай сталіцы. Але ў гэтай прастаце Дурчын умее перадаць і складаны эмацыйны стан матыву, і свой душэўны настрой, які, як чыстая нягучная мелодыя, передаецца і нам, гледачам.



**Наш кар.**



*П.Дурчын.*
*Масток. Кардон, пастэль.*

## СЭНС ЖЫЦЦЯ — ТВОРЧАСЦЬ



Таіса Хацановіч-Дарбінян пайшла з жыцця рана, але ў яе творах засталося столькі цеплыні і святла, столькі пяшчоты, што, здаецца, хопіць на ўсіх нас, і надоўга.

Яе любімым відам творчасці быў габелен. У гэтай складанай тэхніцы ручнога ткацтва, лічыла яна, можна перадаць найдалікатнейшыя адценні думкі, настрою, пачуцця, цёплую філасофію чалавечага жыцця і часу. Карацей, усё тое, што спрадвеку лічылася прэрагатывай станковага жывапісу.

Пачынаючы з дыпломнага твора "Жанчыны ваенных гадоў" і сканчваючы "Музыкай", "Нараджэннем", "Блакітнай санацінай", яе творчасць увабрала ў сябе такія рэдкія псіхалагічныя і пластычныя бакі мыслення, як насычанасць і гучнасць колеру, сакавітую шчыльнасць фактуры, пяшчотны лірызм і аднначасова манументальную ўзвышанасць вобразаў. У кампазіцыйных і колеравых пошуках Тася любіла складаныя "кропкі адліку", мяркуючы, што глядач павінен не проста "чытаць" сюжэт габелена, а, галоўнае, разважаць з нагоды ўбачанага.



Гэта была натура энергічная і тэмпераментная, гранічна запоўненая творчымі задумамі. Не любіла паўтарацца, вар'іраваць ужо знойдзеныя рашэнні, заўсёды імкнулася да чагосьці новага, нязведанага, часта эксперыментавала. Ад лёгкай тканіны пераходзіла да цяжкай драпіроўкі-заслоны, ад буйнога габелена да сцэнічнага касцюма, ад камернага дэкаратыўнага пано-батыка да эталонаў для вытворчасці ў тэхніцы рамізнага ткацтва, ад акварэлі да алею.

Гадоў дзесяць таму народны мастак Беларусі Анатоль Анікейчык справядліва напісаў пра Тасю: "Свае габелены Тася выконвала на ткацкім станку ў маленечкім пакойчыку прыватнай кватэры. Яна — неверагодна адданы мастацтву чалавек. Яе творы вылучаюцца высакародствам колеравай гамы, вытанчаным лірызмам і арыгінальнасцю кампазіцыйнай пабудовы". Тася, сапраўды, не існавала па-за творчасцю. Мастацтва было яе жыццём. І стан творчага неспакою не пакідаў яе ніколі, нават у цяжкіх жыццёвых сітуацыях і падчас хваробы.

У сваёй творчасці яна ўвасобіла не толькі музыку казачных зямных пейзажаў і дзівосныя ўзоры колераў, але і прыцягальную прыгажосць і дабрыню чалавечых твараў. Яна малявала і пісала тых, каго любіла, і ўсё тое, што ёй падабалася ў прыродзе і жыцці. Цудоўна ведала беларускае народнае ткацтва і заўсёды была ў плыні сучасных праблем нацыянальнага мастацтва.

Яе акварэлі мала каму вядомыя. Тася іх ніколі не выстаўляла, хаця многія з іх потым увайшлі ў прыватныя калекцыі замежных краін. Яна была строгай і патрабавальнай да сябе, лічыла, што ў акварэльным мастацтве не здолела сказаць тое, што сказала ў мастацкім ткацтве. І — дарэмна. У яе ёсць цудоўныя акварэльныя экзерсісы, што нагадваюць па сваім настроі вершы Цвятаевай. Гэтыя акварэлі поўняцца абаяннем, душэўнай шчодрасцю і трапяткой гармоніяй. Хочацца, каб іх убачылі людзі...

Хай будуць бласлаўлёныя сустрэчы з творчасцю гэтай таленавітай мастачкі. Хай яе мастацтва вяртае нашым сэрцам ціхую радасць страчаных пачуццяў і слоў...

**Барыс КРЭПАК**

*Т.Хацановіч-Дарбінян.*
*Святочны нацюрморт.*
*Габелен.*

## ЁН БЫЎ ЛЕТУЦЕННЫМ РАМАНТЫКАМ...

Мікалай Селяшчук быў востра, абпальваюча таленавіты. Няўрымслівы і аднначасова спакойна-засяроджаны, ён усё падхопліваў хутка, са здзіўляючай чулівасцю ўмеў разгледзець у мітуслівых паўсядзённых уражаннях штосьці яшчэ неакрэсленае і прыхаванае, але, на ягоную думку, вельмі істотнае, неабходнае для прасвятлення чалавечай душы. Сярод шматлікіх адценняў казачнага рэтраспектывізму і адмысловай бравурнасці, якія былі ўласцівыя ягонаму мастацтву, вельмі моцнай была ўзрушанасць мастака ад сустрэч з невядомым, ад захапляючага душу здзіўлення перад першаадкрыццём.

Пэндзаль жывапісца, поўны накалу і энергіі, расплаўляў застарэлую абалонку будзённасці і даставаў са схаваных, маўклівых глыбінь звычайнага, рэальнага асаблівы, хвалюючы ілюзорны сэнс. Менавіта такі рэдкі дар судакранання з патаемным і схаваным напітваў ягоныя карціны мастакоўскай страсцю і нязгасным душэўным полымем.

Здзіўляючая здольнасць майстра-віртуоза па-новаму адлюстроўваць свет сваёй душы, сваіх схільнасцяў, ідэалаў цалкам раскрылася на першай персанальнай выставе твораў Мікалая Селешчука праз сорак дзён пасля ягонага адыходу з жыцця. Яму не было і пяцідзесяці гадоў. Ён не дажыў да паважнага ўзросту і ў памяці сучаснікаў назаўжды застанецца вечна маладым, такім, якім ён застаўся на фотапартрэце — усмешлівым, адкрытым, прыгожым. Але што паробіш — тут ужо даводзіцца разважаць пра вынікі. Няўрымслівая і мэтанакіраваная творчая сіла мастака, якая ў апошнія гады жыцця, здавалася, проста не ведала межаў, — спыніла свой рух. Перад гледачамі выставы паўстала з'ява завершаная і скончаная. А апошнія творы мастака "Вяртанне дадому", "Шлях дадому", "Вандроўка на Афон", "Вяртанне на радзіму" сталі нібы тэстаментам Майстра, фіналам ягонага яскравага творчага жыцця.

Так, з далёкай сонечнай Італіі, дзе трагічна абарвалася ягонае жыццё, ён вярнуўся на Радзіму, дадому — ужо назаўсёды. І мінула сорак дзён, як душа ягоная "взошла на святую гору Синая", і сустрэлася з Госпадам, і "водворилась в небесные селения с праведниками".

І засталіся творы, якія вымагаюць ад нас галоўнага: усталяваць сувязі з рэальнасцю, улоўліваючы асаблівую, але па-свойму цалкам заканамерную логіку паэтычнай трансфармацыі рэчаіснасці ў барочна-адмысловых фантазіях мастака. З творчай рэпутацыяй Селешчука звязана яшчэ адна дзіўная рэч, якая датычыць стэрэатыпу меркаванняў пра ягоныя творы. Нават самыя шчырыя добразычліўцы часам казалі з лёгкім уздыхам, што ён —"цяжкі мастак". Усе гэтыя людзі ў надзвычай дзіўных апранахах і капелюшах, птушкі і жывёлы з невядомых светаў, заморскія кветкі і прадметы старажытнасці, замкі, ратушы і цэрквы, усе гэтыя маскарады і святкаванні — адкуль яны? Але пры больш пільным разглядзе нечакана высвятляецца, што Селяшчук быў адным з самых прастадушных і непасрэдных майстроў нашага мастацтва!

Валодаючы ад прыроды жывой і невычэрпнай фантазіяй, ён быў вельмі блізкі да стыхіі фальклору, да вобразнага свету народных казак і філасофскіх паданняў, а таксама да пэўнага кола вялікіх майстроў мінулага, творчасць якіх ён вывучаў не толькі па рэпрадукцыях. А яшчэ да роднай прыроды, без якой не абыходзіцца практычна ні адна карціна: пра гэтыя пейзажы з архітэктурнымі прыкметамі часу, з дрэвамі і каменнямі, з птушкамі і белым месяцам, з беларускімі хаткамі і вясновымі туманамі можна напісаць цэлую навелу.

У сваёй цалкам асабістай востра-эксцэнтрычнай манеры жывапісу Селяшчук, на маю думку, дае яскравае ўвасабленне некаторых характэрных тэндэнцый сучасных мастацкіх працэсаў, знітаваных з няпростымі пошукамі "неарамантызму". Але толькі ў Селешчука гэтая "рамантычная летуценнасць" сталася формаю мастацкай псіхалогіі, трывалай асаблівасцю бачання свету. Вальней за ўсіх сваіх таварышаў ён размаўляў мовай параўнанняў і метафар, складаных асацыяцый і дзіўнай умоўнасці сваіх прасторава-часавых канструкцый.



Нарэшце, "мантажны" прынцып атрымаў у яго самае паслядоўнае і завершанае выяўленне. Пачынаючы з "Хронікі аднаго вечара" і заканчваючы "Спякотным вечарам з вясёлкай на крэсле", Селяшчук строга прытрымліваўся гэтага прынцыпу. Бо для яго ўвесь свет — мантаж, прычым у гэтым свеце ўсё можа спалучацца з усім. У вольныя спалучэнні ў яго могуць уступаць не толькі асобныя элементы, дэталі, чалавечыя вобразы і казачныя істоты, але і розныя катэгорыі быцця, часы, прасторы, душэўныя станы.

Творы Селешчука — нейкія парадаксальныя снабачанні, нейкія мары, казкі пра жыццё, дзе адлюстраваны і знічкі дзіўнай нерэальнасці, і водбліскі фантастычнай адмысловасці, якія часам узыходзяць да босхаўскіх алегорый. І аднначасова ў іх — чысціня і прасветленасць душы, празрыстасць пачуццяў і нейкая адухоўленая пяшчота, асабліва ў жаночых партрэтах і маленькіх жывапісных кампазіцыях накшталт "Па веснавым снезе", "Снег", "Грыбны сезон".

Селяшчук не супрацьстаяў сваім калегам па мастацкім напрамку. У яго была толькі адна "выключная" асаблівасць — сапраўды рэдкая сіла таленту. Ён з асаблівай завершанасцю выказаў тое, што складала схаваны сэнс нашага складанага і супярэчлівага часу, у якім мастак усё ж бачыў святло ў канцы тунэля і вельмі жадаў, каб гэтае святло пабачылі і людзі, ягоныя гледачы. Сапраўды, гісторыя мастацтва — гэта і ёсць гісторыя "выключэнняў". Нічога ў ёй не выклікае заканамернасці, нібы "беззаконная комета в кругу расчисленном светил". Менавіта таму апосталы ўсяго нарматыўна-сярэднестатыстычнага так балюча заўсёды ўспрымалі з'яўленне падобных талентаў і імкнуліся іх альбо "ўсярэдніць", альбо цалкам выцесніць у нябыт. "Мы всякого гения потушим во младенчестве", — казаў прыхільнік канцэпцыі "статкавай роўнасці" Пётр Верхавенскі з рамана Дастаеўскага.

Селяшчук не дачакаўся звання заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, хаця паспеў "заслужыць" Дзяржаўную прэмію. У нас, на Беларусі так часта здараецца: званні даюць тады, калі ўжо і жыццё заканчваецца... Але Селяшчук застанецца ў гісторыі беларускага мастацтва як мастак народны, гэта значыць, любімы народам, прынамсі, ягонай найбольш інтэлектуальнай часткай. А што да Еўропы, дык яна даўно і заслужана ацаніла гэтага Майстра. Нават у галерэях Канады і Экватарыяльнай Гвінеі лічаць за гонар мець карціны Мікалая Селешчука — мастака з далёкай і малавядомай Беларусі...

І ў маім зборы ёсць адзін твор, падараваны Колем некалькі гадоў таму: аголеная дзяўчына на фоне беларускага пейзажу. Яна заўсёды выклікала ў мяне пачуццё радасці, адухоўленай прыўзнятасці. Сёння ж я гляджу на гэтую невялікую карціну з пачуццём суму і тугі...

**Барыс КРЭПАК**

*М.Селяшчук. Канец сезона туманаў. Палатно, алей.*

## КЛУБНАЯ ВЕЧАРЫНА

*Пераадолець гэты прабел дапаможа навуковая, метадычная і творчая дзейнасць Беларускага інстытута праблем культуры, Саюза фалькларыстаў Беларусі, кафедры рэжысуры святаў Беларускага універсітэта культуры, якая стала цэнтрам адраджэння народных святаў, абрадаў і традыцый, а таксама абласныя цэнтры народнай творчасці.*

*У сучасным духоўным жыцці Беларусі атрымалі распаўсюджанне народныя святы ўсіх каляндарных цыклаў. Сямейна-побытавы аспект у іх спрошчаны, структура святаў насычана элементамі тэатралізацыі.*

*Нярэдка святы праводзяць ў форме прадстаўленняў, дзе існуе падзел на артыстаў і гледачоў, актыўных удзельнікаў і пасіўных сузіральнікаў дзеі. Такое ўвасабленне і трактоўка святаў не адпавядаюць народнай традыцыі, згодна з якой усе прысутныя былі актыўнымі творцамі.*

*У народных святах і зараз пасляабрадавае гульнёвае дзеянне альбо адсутнічае ўвогуле, альбо ўвасабляецца вельмі прыблізна. Падбор гульнёвых дзеянняў часта выпадковы, яны не адпавядаюць тэматычнай накіраванасці святаў, мясцовым традыцыям. Таму губляецца ў значнай ступені нацыянальны характар, мясцовы каларыт, характэрная рэгіянальная адметнасць святаў.*

*З гэтых прычын зараз перад работнікамі культуры паўстала надзённая задача — стварэнне спецыфічнага гульнёвага пазаабрадавага комплексу кожнага канкрэтнага свята каляндарнага цыкла. Гэта — адзін з накірункаў у адраджэнні народных святаў. Прапануем чытачам газеты "Культура" шэраг творчых распрацовак гульнёвых праграм да святаў усіх каляндарных цыклаў. Сцэнарыі створаны студэнтамі кафедры рэжысуры святаў Беларускага універсітэта культуры і супрацоўнікамі Мінскага абласнога Цэнтра народнай творчасці. Гульнёвыя праграмы пабудаваныя пераважна на фальклорна-этнаграфічных матэрыялах Міншчыны. Сярод іх ёсць распрацоўкі, створаныя на аўтэнтычнай аснове, а таксама творча пераасэнсаваныя і прыстасаваныя да сучаснага свята.*

*Гэта першая ў Беларусі спроба стварэння спецыфічнага гульнёвага комплексу святаў. І таму вельмі важна, каб работнікі культуры не механічна пераносілі прапанаваныя праграмы ў структуру сваіх святаў, а дапаўнялі іх перш за ўсё мясцовымі гульнямі і забавамі. Гэта будзе спрыяць захаванню і развіццю беларускай народнай гульнятэкі ў кожнай мясцовасці, дапаможа зрабіць нашыя святы па-сапраўднаму масавым народным дзействам.*

**Пётра ГУД,**
**загадчык кафедры рэжысуры святаў Беларускага універсітэта культуры, дацэнт, кандыдат гістарычных навук.**

# АД КАЛЯД ДА ПАКРОВА

***Народныя святы, абрады, традыцыі, з'яўляючыся састаўной часткай духоўнай культуры, апошнім часам вяртаюцца да нас з палону забыцця, уваходзяць у святочны побыт беларусаў. Адраджэнню нацыянальнай культуры ў значнай ступені садзейнічала Пастанова Вярхоўнага Савета рэспублікі аб уводзінах у сучасны святочны каляндар беларусаў такіх вялікіх святаў, як Каляды і Вялікдзень. Але ў нашых культработнікаў не хапае фальклорна-этнаграфічных ведаў, яны не ўяўляюць, як праводзяць такія святы.***



### КАЛЯДНЫЯ ВАРОЖБЫ

*Памяшканне святочна ўбрана. Стаіць стол, заслаты абрусам, на ім свечка, рэчы для варожбы.*

*Гучыць беларуская народная песня "Паехала каляда". Пад лірычную мелодыю выходзіць дзяўчына. Папраўляе рэчы на стале, запальвае свечку і звяртаецца да гледачоў.*

ВЯДУЧАЯ: Калядныя варожбы. Яшчэ адзін паэтычны штрых да духоўнага жыцця нашых дзядоў і прадзедаў. Яны былі ўцехаю і забаваю, бо заўсёды неслі чалавеку надзею. Згадзіцеся, каму з маладых не хацелася б пранікнуць у будучыню, даведацца пра суджанага-раджанага, сямейны лёс? Ці не так?

*(Гледачы адказваюць).*

ВЯДУЧАЯ: Вось і мы зараз з вамі паваражым. Паспрабуем акуньцца ў гэтыя таямнічыя скарбы мінулага! Пачынаем.

*(Запальвае яшчэ адну свечку).*

Вось гэту свечку вы перадавайце хуценька адзін аднаму. І ў каго яна па заканчэнні музыкі застанецца — той самы шчасны на нашым сённяшнім свяце.

*(Гледачы перадаюць свечку. У каго яна засталася па заканчэнні музыкі, той падыходзіць да Вядучай).*

ВЯДУЧАЯ: Вось наша першая ўдзельніца варажбы — самая шчасная дзяўчына на нашым свяце. Давайце зараз выберам самую прыгожую і самую вясёлую дзяўчыну. І зробім гэта пры дапамозе чароўнай свечачкі.

*(Гледачы зноў перадаюць свечку адзін аднаму. Дзяўчаты выходзяць да Вядучай).*

ВЯДУЧАЯ: Вось нашыя самая шчасная, самая прыгожая і самая вясёлая дзяўчына. Выбірайце сабе, калі ласка, яшчэ па адной сяброўцы, і мы пачнем варажыць.

*(Дзяўчаты яшчэ запрашаюць з гледачоў трох удзельніц, усе падыходзяць да Вядучай).*

ВЯДУЧАЯ: Вось нашы першыя ўдзельніцы. На калядкі ўсе дзяўчаткі вось так варажылі: выходзілі на двор, набіралі трэсак у фартух і беглі ў хату. А ў хаце лічылі трэскі: цотны іх лік — хутка быць у пары, а калі няцотны — у гэтым годзе яшчэ не сустрэнецца з суджаным.

*(Ідзе варожба з трэскамі).*

Ну, вось мы і спазналі, хто ў гэтым годзе будзе ў пары.

Але згадзіцеся, кожнай дзяўчыне цікава ведаць, ці раней яна за сваіх сяброўак замуж пойдзе. І вось што для гэтага рабілі: скінуўшы чаравік, мералі ім дарогу ад покуці да парога. Чый першы ля парога апынецца, тая наперад замуж пойдзе.

Зараз і мы паспрабуем так паваражыць.

*(Дзяўчаты здымаюць па чараўіку і ад покуці да парога адна за адной мераюць ім дарогу).*

ВЯДУЧАЯ: Мы даведаліся, каму ў гэтым годзе ў пары быць, і хто раней замуж пойдзе. Але яшчэ ж цікава ведаць, якога нораву будзе ваш суджаны.

*А дастанешся хлопцу браваму,*
*Хлопцу браваму, кучараваму,*
*Хлопцу зграбнаму і высокаму,*
*Хлопцу смеламу і разумнаму.*

Вось у мяне, дзяўчаткі — звярніце ўвагу — на стале стаяць шэсць талерачак, на кожнай ляжыць нейкая рэч, накрытая сурвэткай. Зараз кожная дзяўчына па чарзе возьме сабе талерку, і па рэчы мы даведаемся, якога нораву будзе ваш суджаны!

*(На талерках ляжаць:*
*чарка (муж будзе трошачкі выпіваць);*
*люстэрка (прыгажун);*
*зерне (працавіты і старанны);*
*кніга (разумны);*
*шчотка (злосны, з характарам);*
*ключы (гаспадарлівы)*

ВЯДУЧАЯ: Ці спадабаліся вам варожбы, дзяўчаткі?

*(Гледачы адказваюць).*

Дзякуй вам, сядайце, калі ласка.

*(Вядучая падыходзіць да стала і бярэ талерку з зернем, у якой ляжаць і пярсцёнкі).*

ВЯДУЧАЯ:
Ай, дай жа Божа малайца-таргаўца,
Каб у будні дзень у золаце хадзіла,
А ў нядзельку ў аксаміце.

Вось у мяне, госцікі даражэнькія, талерка з зернем. Але ж яна не простая. У гэтай талерцы ляжаць пярсцёнкі розныя. Зараз кожная дзяўчына, да якой я падыду, возьме па жмені зерня. І па тым, які пярсцёнак ёй дастанецца, мы даведаемся аб дастатку вашага кавалера.

*(Вядучая падыходзіць да дзяўчат, яны бяруць па жмені зерня, сярод якога трапляюцца пярсцёнкі).*

Калі дастаўся залаты пярсцёнак — значыць, сустрэнецца хлопец багаты-багаты; срэбны — прыдзе хлопец у сваты з сярэднім дастаткам; просты пярсцёнак—сустрэнецца вельмі шчодры хлопец, не вельмі багаты. Але ж вы будзеце моцна кахаць адзін аднаго. Пярсцёнак з камянём — сустрэнецца дзяўчыне не проста хлопец, а нават паніч. І быць гэтай дзяўчыне хутка паняй. Калі ўзяла адно зерне — у гэтым годзе ніякі хлопец не сустрэнецца. Але ж хто ведае — можа, яно і да лепшага? Ёсць час падумаць, удалы выбар зрабіць.

ВЯДУЧАЯ: Вось, дзяўчаткі, вы даведаліся, якіх хлопцаў чакаць вам у сваты. Але ж цікава, адкуль яны з'явяцца? Таму выходзьце да мяне, хто зараз варажыў і каму дастаўся пярсцёнак. Зараз мы даведаемся, з якога боку сватоў чакаць!

*(Да Вядучай выходзяць чатыры дзяўчыны).*

ВЯДУЧАЯ: А раней вось як рабілі.

*(Вядучая бярэ доўгі кій)*

Бралі кол і ставілі яго перад сабой, а затым выпускалі з рук. У які бок кол упадзе, адтуль і сватоў чакаць.

Ну, паспрабуем? *(Па чарзе адпускаюць кол, а вядучая растлумачвае):*

Чакай, дзяўчына, прыезджых сватоў здалёк, мо з-за мяжы нават. Падобна, нейкі госць адтуль да цябе завітае. Ну, а ты, дзяўчына, не вельмі далёка пойдзеш ад роднай хаткі. Добры сусед к табе завітае.

ВЯДУЧАЯ: Ці спадабаліся вам варожбы? Ну, тады далей варажыць будзем! Станавіцеся, дзяўчаткі ў паўдужка.

Пагуляйце, дзеванькі, пагуляйце.
Пойдзеце ў чужыя людзі —
Мінецца гулянне,
Дзявочае красаванне.

Зараз, дзяўчаткі, мы даведаемся, якой жа спецыяльнасці будзе ваш суджаны. І дапаможа нам у гэтым пеўнік. Але спачатку мы размясцімся па чарзе, каб ведаць, якая дзяўчына пад якім нумарам. Уважліва сачыце за пеўнікам, што ён будзе рабіць.

*(Гучыць вясёлая музыка. Да дзяўчат выходзіць пеўнік — пераапрануты хлапец. Спачатку ён ходзіць, аглядаючы кожную дзяўчыну).*

ВЯДУЧАЯ:бачыце, дзяўчаткі, наш пеўнік ходзіць ды паглядвае. Гэта значыць, што першай дзяўчыне дастанецца муж аграном.

*(Певень махае крыламі).*

ВЯДУЧАЯ: А вось другой дзяўчыне дастанецца муж-лётчык.

*(Певень кукарэкае).*

ВЯДУЧАЯ: Глядзіце, наш пеўнік спявае. У трэцяй дзяўчыны будзе муж-артыст.

*(Яшчэ певень можа біцца — муж будзе міліцыянер; бегчы —спартсмен; кляваць — дырэктар рэстарана; грабсці лапай —трактарыст).*

ВЯДУЧАЯ: Дзякуй, дарагі пеўнік, табе за дапамогу! Дзяўчаткі, давайце падзякуем пеўніку, створым вакол яго карагод, хай ён станчыць.

*(Дзяўчаты водзяць вакол пеўніка карагод, і ён танчыць).*

ВЯДУЧАЯ: Дзякуй табе, пеўнік, дзякую вам, дзяўчаткі! Сядайце, калі ласка!

Вось і ўсё, што мы паспелі.
Варажылі, як умелі,
Жаніхоў павыбіралі,
Ды развітацца нам час!
Шчасця зычу і кахання,
Хай спаўняюцца жаданні.
Зараз жа на развітанне
Шчыра дзякую я вам.

Госцікі, даражэнькія, да сустрэчы ў наступным годзе на Калядных варожбах!

*(Развітваецца з гледачамі).*



**Рэдакцыя спадзяецца, што матэрыялы, якія падрыхтаваў Пётра Гуд, будуць карыснымі работнікам сферы культуры, настаўнікам і ўсім, хто займаецца арганізацыяй адпачынку нашых грамадзян. За месяц-паўтара да кожнага каляндарна-абрадавага свята мы будзем друкаваць сцэнарыі іх правядзення. Таму раім усім зацікаўленым падпісацца на газету "Культура" на 1997 год і нагадваем, што наш падпісны індэкс 63 875, кошт падпіскі:**

***на адзін месяц — 7 тысяч рублёў;***
***на адзін квартал — 21 тысяча рублёў;***
***на паўгоддзе — 42 тысячы рублёў.***
***Выбіраючы нашу газету,***
***Вы аддаеце свой голас:***
***— за нацыянальнае адраджэнне Беларусі;***
***— за зберажэнне і развіццё культурных традыцый беларускага народа;***
***— за больш важкі клопат дзяржавы ў вырашэнні матэрыяльна-эканамічных праблем культуры.***

АСОБА Ў КАНТЭКСЦЕ ГІСТОРЫІ



## Віктар ТУРАЎ:

# "ПРА СЯБРОЎСТВА З ВЫСОЦКІМ Я МАЎЧАЎ ШАСНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ..."

## Дыялог пра чалавека, які ішоў "у страі заўсёды не ў нагу..."

*(Працяг. Пачатак у № 42 — 46)*

**Барыс КРЭПАК:** Спадзяюся, на гэты раз усё абышлося?

**Віктар ТУРАЎ:** Калі б так! Сяджу ў нумары і з жахам думаю: які яшчэ жарт выкіне мой недарэчны сябар? І — так яно і атрымалася. У трэці раз у паўп'яным стане вяртаюцца назад. І тады я па аўтамаце набіраю маскоўскі тэлефон Барыса Хмяльніцкага, акцёра Тэатра на Таганцы і Валодзінага сябра, і прашу яго выслаць тэлеграфам трохі грошай. Грошы прыйшлі даволі хутка. Я зноў купляю білеты на самалёт, зноў адпраўляю хлопцаў на таксі — і з яшчэ большым жахам чакаю, што адбудзецца зараз. Усё ціха. Праз некалькі гадзін набіраю тэлефон Валодзінай маці — Ніны Максімаўны і пытаюся Валодзю. "Ведаеш, Віця, Валодзі няма. Ён даўно адпачывае ў Сочы...". Але па часе ён ужо павінен быць дома, у Маскве! На наступны дзень зноў тэлефаную Ніне Максімаўне, і тут у адказ: "Так, так, Валодзя нядаўна прыехаў! Але ён з дарогі гэтак стаміўся, што зараз спіць, нібы забіты!". Потым я даведаўся: Валодзя з Давідам усё-такі зноў здалі білеты на самалёт, купілі білеты на цягнік, а розніцу кошту, каля чатырох рублёў — пусцілі на віно...

**Б.К.:** Дзе ж логіка? Калі б Высоцкі сеў на самалёт, ён ужо праз паўтары-дзве гадзіны быў бы ў Маскве, дзе ўсе шляхі "да штопара" былі б адкрытыя?

**В.Т.:** Логіка тут адсутнічала, ты маеш рацыю. Ён усё ж сеў у цягнік. Ды яшчэ некаму падарыў сваю пыжыкавую кучомку... Так, характар у Валодзі быў легкадумны, і гэтая легкадумнасць, унутраная разняволенасць, своеасаблівы канфармізм рабілі яго вольным чалавекам. Вольным нават у ягонай слабасці! Гэта, безумоўна, не заслуга, але што было, тое было...

**Б.К.:** А ў стане "кайфу" Высоцкі выходзіў калі-небудзь на здымачную пляцоўку?

**В.Т.:** У прынцыпе, не. Хаця быў адзін цікавы выпадак у Марселі падчас гастроляў таганкаўцаў. Валодзя іграў Гамлета не ў самай лепшай акцёрскай форме, калі можна так выславіцца. Але французы — дзіўны народ, не прызвычаіліся да таго, што артыст можа быць на сцэне "пад мухай". Але Валодзя сыграў настолькі таленавіта, што на наступны дзень адна марсельская газета адзначыла "яшчэ адну арыгінальную трактоўку вобраза Гамлета: Гамлет-алкаголік!".

**Б.К.:** Дзе ты часцей за ўсё сустракаўся з Высоцкім — у Маскве альбо ў Мінску?

**В.Т.:** І ў Маскве, і ў Мінску сустракаўся аднолькава часта. І ў Прыбалтыцы, і ў розных месцах Беларусі, і нават у Ташкенце — падчас Усесаюзнага фестывалю тэлефільмаў, калі там гастраляваў тэатр "Современник". Памятаю, аднойчы я павінен быў ляцець з Масквы ў Канны на Міжнародны кінафестываль. Я тады ўзначальваў дэлегацыю Саюза кінематаграфістаў СССР. Усе ў самалёце, але чамусьці не вылятаем. У чым справа? Усе ўжо пачалі хвалявацца. І тут проста да трапа падкатвае аўтобус, а ў аўтобусе — адзін Высоцкі! Ён спазніўся: гэта толькі для яго маглі зрабіць такое выключэнне: затрымаць цэлы самалёт... Валодзя ўвайшоў у салон, папрасіў прабачэння. Неверагодна змардаваны, стомлены, ён плюхнуўся побач са мною: "Лячу на дзень нараджэння Марыны". І толькі мы паспелі дамовіцца пра сустрэчу ў Парыжы, калі я буду вяртацца з Каннаў, як ён раптоўна заснуў. Прыляцелі ў Парыж. Марына сустрэла Валодзю, а мы паехалі ў Ніцу, а адтуль — у Канны. Вярнуўшыся ў Парыж, я патэлефанаваў Марыне.





*Сустрэчы на Навагрудчыне. Фота з архіва сястры В.Турава — Ларысы.*

Яна была вельмі ўсхваляваная і заклапочаная: "Віця, бяда, Валодзя некуды знік!". Я ж не мог супакоіць, маўляў, нічога страшнага: у Валодзі ў Парыжы шмат сяброў, магчыма, ён гуляе з Мішам Шамякіным альбо з гітарыстамі Клода Паві, у якога запісваў першую сваю кружэлку... Ды ці мала што яшчэ? Упершыню, ці што? А раніцай Марына павінна была ляцець у Канны: там пачыналіся Дні французскага кіно. Перад адлётам патэлефанавала мне ў гатэль: "Віця, я ў поўнай разгубленасці. Валодзя так і не з'явіўся... Патэлефаную, калі вярнуся з Каннаў... Праз некалькі дзён..." Але на пяты дзень я паляцеў у Маскву і тэлефанавання не дачакаўся...

**Б.К.:** А што здарылася тады з Валодзем?

**В.Т.:** Нічога асаблівага. Як я і меркаваў, Валодзя загуляў, здаецца, з рускімі эмігрантамі. Што да Масквы... Калі я на нейкі час вымушаны быў пакінуць Беларусь і пераехаць у Маскву, дык там я пабудаваў сабе кааператыўную кватэру. І лёс склаўся так, што з балкона майго дома я бачыў дом Высоцкага: ён знаходзіўся ў ста пяцідзесяці метрах ад майго. Ён жыў на Малой Грузінскай, я — на Вялікай Цішынцы, дзе на цокальным паверсе месціліся Вышэйшыя сцэнарныя курсы. Натуральна, сустракаліся вельмі часта. А Мінск? Мінск быў для Валодзі не толькі ўласна горадам, які ён па-сапраўднаму любіў, але і своеасаблівым транзітным пунктам на шляху з Масквы ў Парыж і назад.

**Б.К.:** Ты маеш на ўвазе аўтамабільныя вандроўкі Высоцкага і Уладзі ў Францыю і назад праз Мінск? Як пісаў Высоцкі:

*Ах, дороги узкие —*
*Вкось, наперерез, —*
*Версты белорусские —*
*С ухабами и без!*

**В.Т.:** Так, на гэтай шашы ў іх было толькі два вялікія прыпынкі: адзін у Мінску, дзе, пакінуўшы машыну ў мяне ў двары, яны адпачывалі ў маёй кватэры; другі — у Варшаве, у Даніэля Альбрыхскага і ягонай жонкі Монікі. Потым яны дабіраліся да Мюнхена, дзе звычайна пакідалі машыну на рамонт у свайго блізкага сябра Рамана Фрумзона, а далей на цягніку — у Парыж. На адваротным шляху забіралі ў Мюнхене машыну і зноў — Варшава, Брэст, Мінск, Масква. У першыя гады шлюбу з Марынай Валодзя ездзіў на "Жыгулях", якія дапамагла яму набыць Уладзі. Потым прыгнала яму французскі "Renault", потым —"Mercedes", каб не Валодзя выглядаў больш рэспектабельна. затым — "Mercedes-Benz", такі спартыўны варыянт хуткаснай машыны. Дарэчы, Марына сама вадзіла любы аўтамабіль цудоўна. Аднойчы яна з Валодзем ехала з Парыжа ў Маскву, натуральна, праз Мінск. Але так здарылася, што Валодзю трэба было абавязкова быць на рэпетыцыі ў тэатры, а на машыне можна было і не паспець. Тады мы з Уладзі пасадзілі Валодзю на самалёт. Марына перапачавала ў мяне, а раніцай мы селі ў яе машыну — мне таксама было неабходна быць у Маскве ў сувязі са здачай карціны — і ў дарогу. Марына — за рулём. І, ведаеш, выехалі а пятай раніцы, а ў дзесяць — былі ўжо ў сталіцы. Марына ехала з сярэдняй хуткасцю 180 кіламетраў у гадзіну.

**Б.К.:** Марына навучыла Уладзіміра вадзіць машыну?

**В.Т.:** Так, Марына. Яна машыну ведала і адчувала цудоўна. Я памятаю нават моманты, калі яна, навучаючы Валодзю і прывучаючы яго да руля, вельмі перажывала за яго. У яе аўтаматызм кіравання аўтамабілем быў адпрацаваны да ідэальнасці, нават на летніку пераключала павароты. Дарэчы, яна цудоўна вадзіла і спартыўны самалёт. Увогуле, жанчына і актрыса — чароўная. Яна была і таленавітай пісьменніцай: яшчэ да таго як напісала кнігу пра Валодзю, яна выдала кнігу ўспамінаў пра сваю бабулю. Так і назвала яе "Бабуля"...

**Б.К.:** Чаму — "бабуля". Звычайна ў літаратуры ўвекавечваюць бацькоў альбо дзядоў?

**В.Т.:** Як мне распавядала Марына, яе бабуля была асобай здзіўляючай і экстравагантнай. Яе муж, гэта значыць, Марынін дзед, у час станаўлення капіталізму ў Расіі, быў адным з найбуйнейшых купцоўпрадпрымальнікаў, ён адліваў званы для праваслаўных цэркваў. Атрымаў дваранскі тытул. Ну, і раз на месяц дазваляў сабе пагуляць у цыганскім "Яры". Праўда, калі з'яўляўся дома, закідваў сваю жонку дарагімі падарункамі. Але ёй у рэшце рэшт гэтыя загулы надакучылі, і аднойчы, пераапрануўшыся ў вакханку, са сваімі знаёмымі наведала "прытон" свайго мужа. І так цудоўна танчыла там бурлеску, што ўсе, заінтрыгаваныя, войкнулі: адкуль раптам з'явілася такая прыгожая жанчына, ды яшчэ, бачна, са шляхецкага саслоўя? Прыгледзеўся і муж. Пазнаў! Уражаны, схапіў яе і — дадому! На гэтым ягоныя гулянкі і скончыліся. Але захараўся бягамі. Ён і памёр на іпадроме.

**Б.К.:** Таму, што прайграў?

**В.Т.:** Не. Ад вялікай радасці, што ягоны конь прыйшоў на скачках першым...

**Б.К.:** А кім быў бацька Марыны?

**В.Т.:** Уладзіміра ў войска не ўзялі, бо ён быў адзіным нашчадкам вялікай гаспадаркі і павінен быў працягваць бацькоўскую справу. І ён, працягваючы лісцейную справу, мог яшчэ пераганяць аэрапланы па маршруце Масква — Парыж і назад.

**Б.К.:** А маці Марыны?..

**В.Т.:** Таксама руская. Яна ведала ўсіх Марыніных мужоў — і Ража Вадзіма, якога тая адбіла ў Брыжыт Бардо, і Рабера Асейна, але, як ні дзіўна, ніводнага з іх не прымала. Калі Марына ўжо была з Высоцкім, дачка арганізавала паездку сваёй мамы ў Расію. Яна пазнаёмілася там з Валодзем, і хаця Высоцкі не ўражваў ні ростам, ці знешнасцю, ні арыстакратычным выхаваннем, яна прыняла яго як "сапраўднага мужчыну", які па ўсіх параметрах падыходзіць для яе дачкі.

**Б.К.:** У мяне такое ўражанне, што ты Марыну Уладзі ведаў не горш за Высоцкага?

**В.Т.:** У мяне было некалькі гісторый, звязаных з Марынай проста з чалавечага боку — не так, як, скажам, з жонкай Валодзі альбо актрысай. Вось адна з такіх гісторый. Аднойчы Валодзя праважаў Марыну ў Парыж і суправаджаў яе да самога Мінска. Увечары Высоцкі павінен быў вяртацца цягнікам у Маскву, а Марына на наступную раніцу павінна была ад'язджаць праз Брэст на Парыж. І так атрымалася, што якраз у гэты дзень з Магілёва прыехала мая маці, Марыя Ісаеўна, простая беларуская жанчына, добрая, гасцінная, якая шмат перажыла на сваім вяку. Жонка мая таксама ўвечары збіралася ад'язджаць, і я павінен быў яе праводзіць на цягнік. Але гэта яшчэ не ўсё: здараюцца ж такія супадзенні! Напярэдадні мне патэлефанаваў Валеры Рубінчык: ён якраз заканчваў "Вянок санетаў" і чакаў Бэлу Ахмадуліну, якая для ягонай карціны пісала вершы. Яна павінна была прыехаць на "Беларусьфільм", каб запісаць свае вершы. Прыехала і, даведаўшыся, што тут, у Мінску, знаходзяцца Валодзя з Марынай, вельмі ўзрадавалася. Карацей, днём у маёй кватэры сабралася цудоўная кампанія: мая мама, жонка, Валодзя з Марынай і Бэла. І так атрымалася, што ўвечары мне трэба было праважаць ужо адразу трох — Валодзю, Вольгу і Бэлу.

**Б.К.:** І твая мама засталася сам насам з Марынай Уладзі?

**В.Т.:** Пакуль яшчэ не. Да вечара яшчэ было далёка. Самае цікавае было ў іншым. Дарагія мае госці прыцягнулі з сабою розныя "заморскія" прысмакі з "Бярозкі", а мама мая — хатнюю кіслую капусту, сваё сала, грыбочкі і бутэлечку гарэлачкі. Карацей, нармальны наш беларускі харч! І што ты думаеш? Насмажылі бульбы, парэзалі сала, расклалі капустачку па талерачках і — пад гарэлачку ўсё з'елі! А "бярозаўскі" кошык з экзатычнымі прадуктамі так і застаўся некранутым... Ну, а ўвечары я пайшоў праважаць на вакзал гасцей, пакінуўшы адну Марыну з маёй мамай. І ўвесь час хвалююся: "Як яны там удзвюх? Усё ж людзі, што ні кажы, розныя..." І вось я вяртаюся і бачу такую ідылічную карціну, вартую пэндзля мастака: пры ўключаным тэлевізары, накрыўшыся нейкімі ваўнянымі хусткамі, прыціснуўшыся адна да адной, сядзяць жанчыны. Сядзяць і аб нечым ціхенька гамоняць. Сядзяць дзве нармальныя бабы: адна — знакамітая французская кіназорка, другая — сціплая беларуская сялянка. Аказваецца, ім удзвюх было так добра і ўтульна, што я мог бы і затрымацца...

**Б.К.:** Сядзелі не проста дзве бабы, а дзве чулыя, добрыя душы...

**В.Т.:** Ты маеш рацыю. Нейкая здзіўляючая адкрытасць, шчырасць, даступнасць...

*(Працяг будзе)*



## ТВОРЧАЯ КУХНЯ

### МАРЫЯ ЗАХАРЭВІЧ:

# "ГАДЫ ПРАЛЯЦЕЛІ, ЯК ПТУШКІ..."

*(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)*

І я вельмі ўдзячная сваім бацькам, што нягледзячы на тое, што я была ў іх адна, яны прывучылі мяне працаваць. Мама часта хварэла, і я падмяняла яе на полі, жала (яшчэ будучы дзяўчынкай і ходзячы ў восьмы клас) разам з жанчынамі. Наперагонкі, хацелася не адстаць. Аднак былі і такія хвіліны, аб якіх нельга забыць. І я помню сваё дзяцінства ў асноўным па тых песнях, вечарушках, летніх вечарах на лаўках. Мы столькі спявалі, марылі, чыталі кніжкі, марылі пра кніжных герояў...

**— А калі Вы вырашылі стаць актрысай? Што абумовіла Ваш выбар такой складанай прафесіі?**

— Мне наогул вельмі падабалася літаратура, і я думала, што абавязкова стану выкладчыцай рускай ці беларускай мовы і літаратуры. Мне вельмі імпанавалі нашыя настаўніцы. Яны прыгожа апраналіся і самі былі прыгожыя, і так прыгожа расказвалі. Таму я і была ўлюбёная ў літаратуру. Не любіла матэматыкі не разумела яе, а ўдзельнічаць у самадзейнасці, спяваць, займацца ў драматычным гуртку — вось гэта было для маёй душы. І неяк бацькі гэта разумелі і адпускалі мяне позна вечарам на рэпетыцыі і ў іншыя вёскі з канцэртамі. Помню, у адну вёску пятнаццаць кіламетраў пешкі ішлі, начавалі ў нейкай хаце на падлозе. Але ж мы былі артысты, быў вялікі гонар. І назад дадому ледзь дапляліся. Гэта ўсё было хораша. А ў горад я прыехала ўпершыню паступаць у тэатральна-мастацкі інстытут. Гэтыя мае змены ў выбары прафесіі адбыліся на выпускным вечары ў школе. Настаўнік нямецкай мовы ў нас вёў драматычны гурток, і ён проста мне параіў паступіць у тэатральна-мастацкі інстытут. І я сапраўды неяк хутка памяняла свае дарогі, свой выбар.

**— Раскажыце, калі ласка, пра вучобу ў тэатральна-мастацкім інстытуце. Хто быў Ваш педагог і чым Вам запомнілася студэнцкае жыццё?**

— Бацькі напачатку былі супраць таго, каб я ехала ў горад, ім не хацелася адпускаць адзіную дачку, але, напэўна, яны мяне так любілі, што не змаглі пярэчыць і адпусцілі. Гэта быў смелы мой крок. Я паступіла з першага разу, канешне, са слязамі, перажываннямі, але ж я была прынятая і была шчаслівая. Прымаў уступныя экзамены ў нас Дзмітрый Аляксеевіч Арлоў, а пасля ўжо мы перайшлі ў рукі Канстанціна Мікалаевіча Саннікава. Мы былі вельмі шчаслівыя, таму што ён для ўсіх нас стаў, так бы мовіць, апорай. Менавіта ў той час, калі ты яшчэ на раздарожжы, калі ты разгублены, не ведаеш, што рабіць. І плакалі, і чаго толькі не рабілі, а ён здолеў навучыць нас прафесіі, навучыць працаваць добра і ставіўся да нас як да сваіх дзяцей. Калі мае бацькі ўбачылі К.М.Саннікава і пазналі яго бліжэй (ён у нас вельмі часта бываў, калі заязджаў на Нарач), яны неяк зусім па-іншаму сталі адносіцца да прафесіі артыста і вельмі любілі таксама гэтага чалавека.

Гады вучобы — гэта, канешне, такія светлыя гады, але яны не былі лёгкімі ва ўсіх сэнсах. Гэта гады мы жылі пад страхам, таму што маглі выключыць з інстытута, і кожны экзамен — гэта такія нервы, столькі перажыванняў. І помню, як гаравалі тыя людзі, якіх адлічвалі з інстытута, проста жах. Але пасля яны былі ўдзячныя за тое, што памянялі прафесію. Канстанцін Мікалаевіч быў вельмі добры, але ў гэтым сэнсе ён быў цвёрды і заўсёды так без жалю выключаў, каб не зламаць чалавеку лёс. Увогуле ў нас быў нейкі такі цудоўны курс, вельмі дзяўчат многа было прыгожых, і выпусцілі нас адзінаццаць чалавек, сярод якіх былі Віктар Тарасаў, Генадзь Аўсяннікаў, Галіна Талкачова і іншыя. Амаль усе мы трапілі ў тэатр Янкі Купалы. Цяпер мы ўжо сталі старэйшымі майстрамі купалаўскай сцэны, гады праляцелі, як птушкі.

**— Марыя Георгіеўна, а як, цікава, пачаўся творчы лёс маладой актрысы?**

— Яшчэ калі я вучылася на чацвёртым курсе інстытута, мне прапанавалі іграць у тэатры імя Янкі Купалы галоўную ролю Галі Жураўкі ў спектаклі "Пакуль мы маладыя" па першай п'есе І.Мележа. І я пачынала свой творчы шлях вось праз гэтую ролю. Можа, каб не спадабалася, дык і не ўзялі б у купалаўскі. Напачатку ў тэатры я выкарыстоўвалася вельмі аднабока, такія ўсе былі лірычныя, рамантычныя гераіні. Потым пачаўся пераломны момант. Напэўна, з таго часу, калі я сыграла Лізу Хрэнаву ў "Традыцыйным зборы" Віктара Розава. Непрыгожую дзяўчынку з вельмі трагічным, драматычным лёсам, якая марыла аб тым, каб сабе хлопца купіць за грошы, таму што яна непрыгожая, але, як і кожная жанчына, вельмі хацела кахаць. Потым я ўжо іграла такіх мужных валявых жанчын, як Камісар у "Аптымістычнай трагедыі" Усевалада Вішнеўскага. Былі і зусім іншага плану ролі. Напрыклад, Варвара ў "Навальніцы" Аляксандра Астроўскага. Гэта вясёлая, шырокая натура. Ну і ўвогуле было вельмі многа харошых, рознапланавых драматычных роляў.

Але многа было і незапоўненых творчасцю дзён. Такое ўжо суровае наша тэатральнае жыццё. Я ж ратавалася ў гэты час паэзіяй, беларускай літаратурай. І вось мая душэўная адданасць беларускай літаратуры, беларускім пісьменнікам жыве да гэтага часу. Я ўдзячная лёсу за тое, што не было амаль ніводнага вечара беларускага пісьменніка альбо паэта, у якім бы я не ўдзельнічала. Помню юбілейныя вечары Аркадзя Куляшова, Васіля Быкава, Івана Мележа. І вельмі многа было проста вечароў паэзіі, паэтычных пятніц. І, канешне, у залатым фондзе радыё засталося шмат такіх работ, аб якіх артыстка можа толькі марыць. Вось на радыё ў гэтым сэнсе мне пашчасціла.







**— Вы вельмі любіце беларускую літаратуру, беларускую паэзію. А хто з пісьменнікаў быў Вашым сябрам і ўвогуле ці былі ў Вашым жыцці сапраўдныя сябры?**

— Асабіста я знаёмая са ўсімі пісьменнікамі. А сябравала з Яўгеніяй Янішчыц, Еўдакіяй Лось. Магу назваць сваімі сябрамі Уладзіміра Караткевіча, Івана Мележа, Андрэя Макаёнка і многіх іншых. З гэтымі людзьмі я магла дзяліцца сваім болем, перажываннямі, радасцямі. З вялікай удзячнасцю ўспамінаю зараз гэтых людзей, таму што яны мне давяралі. Цяпер я разумею, якая я была шчаслівая, што ведала іх. Іван Мележ даваў мне чытаць свае першыя рукапісы, а Уладзімір Караткевіч шмат лістоў напісаў да мяне, калі я ляжала ў бальніцы ў сябе на радзіме, і прыязджаў да нас на пахаванне майго бацькі. Ну, канешне, гэтымі ўспамінамі можна нават жыць.

І многія нашыя акцёры таксама былі маімі сябрамі, намнога старэйшая за мяне жонка К.М.Саннікава Лідзія Пятроўна Шынко давярала мне свае тайны, адкрывала сваю душу, і я дзялілася з ёй усім. І Лідзія Іванаўна Ржэцкая, якая зрабіла значны ўнёсак у мой асабісты і творчы лёс, з'явілася маёй апякункай, я буду ёй удзячная колькі буду жыць. Можна многа ўспомніць імёнаў. Усіх не пералічыш, але я шчаслівая тым, што ў мяне было і ёсць вельмі многа сяброў, ва ўсякім разе я лічу іх сябрамі.

**— Марыя Георгіеўна, што з'яўляецца галоўным у Вашай прафесіі і што дапамагае артысту выжыць у наш такі складаны час?**

— Галоўнае для акцёра — праца над сабой. Важна не замыкацца толькі на той ролі, над якой працуеш. Трэба каб неяк шырэй усё хвалявала, цікавіла, каб неяк чалавек душой адгукаўся на ўсе падзеі. Часта гэта для акцёраў вельмі складана, яны рэдка праяўляюць сябе з-за таго, што прафесія залежная ад усёй плыні жыцця. Я не ведаю, што фарміруе акцёра. Калі ёсць, заложана Богам, прыродай — гэта і будзе. Але, усё роўна, у асноўным — гэта праца над сваёй прафесіяй, штодзённая праца, трэніроўка сваёй памяці. Трэба вельмі многа чытаць, вучыць, завучваць.

А дапамагае акцёру выжыць толькі любоў да сваёй прафесіі. За вельмі мізэрную плату ён ходзіць у тэатр. Нават калі не працуе, ён усё роўна прыходзіць у тэатр. Акцёрская прафесія адна з нямногіх, дзе людзі хочуць працаваць, а ім не даюць. І яшчэ жаданне нешта зрабіць, каб людзям было прыемна. Каб людзі прыйшлі, паглядзелі і разам з табой перажывалі і радаваліся, каб успаміналі потым тое, што ўбачылі. А што ж яшчэ? Для чаго наша прафесія? Толькі для людзей, без гледача мы нішто.

Вось і дзеці мае абралі гэтую прафесію, хаця я іх не ўгаворвала. Напэўна, творчая атмасфера дома чымсьці іх прывабіла. Нешта іх такое заваражыла, нешта яны ўбачылі, што рынуліся ў гэтую складанейшую, у гэтую невераготна цяжкую прафесію, дзе нельга расставіць усе кропкі, дзе многа незразумелага. Мой сын зараз працуе ў Рускім драматычным тэатры імя Максіма Горкага, дачка, якая таксама скончыла тэатральна-мастацкі інстытут, у тэатры імя Янкі Купалы. Ёй пашчасціла, што яна трапіла ў такі тэатр і ёй адразу было прапанавана ўвесціся ў спектакль "Тры сястры" А.Чэхава і сыграць ролю Ірыны. Я лічу, што для актрысы — гэта сапраўдны падарунак.

**— Скажыце, а чым зараз запоўнена Ваша жыццё? Які ў Вас настрой?**

— Дрэнны. Патрэбны вялікія сілы зараз, каб сябе арганізаваць. Прычын вельмі многа, не адна прычына і не дзве. Але я стараюся адысці ад гэтага настрою, неяк пераступіць гэта. Цяжка ўдаецца. Зараз нейкі асаблівы перыяд у маім жыцці. Вялікая перааценка ўсяго, калі я магу з боку на ўсё паглядзець, са сваім поглядам, са сваім разуменнем, ацаніць усё. Пры гэтым становіцца часам не вельмі радасна.

**— А што Вам дапамагае, якая Ваша "крыніца" натхнення?**

— Я ніколі так часта не ездзіла ў вёску. А зараз, як і мамы маёй не стала, маёй галоўнай апоры, маёй сяброўкі... наталяе смагу паветра роднага кута. Сябры адыходзяць, блізкія... І я еду туды, каб сапраўды, гэта не нейкія высокія словы, адпачыць душой. Пагаварыць, сустрэцца са старымі людзьмі, неяк апусціцца на зямлю і потым па-іншаму ўспрымаць усё, прыехаўшы ў горад. Таму мне, напэўна, і цяжка ўспрымаць усё пасля вяртання. Я люблю сустракацца са старымі людзьмі, якіх засталося мала, і з імі гаварыць. Напэўна — гэта і ёсць мая "крыніца" натхнення.

*Што ж мяне заўсёды кліча ў край юнацтва,*
*Да сваіх сцяжынак, векавых бароў,*
*Да лагоў звярыных, да гняздоўя птаства,*
*Да бацькоўскай прызбы з шэрых валуноў.*
*Знаць, у іх жыве тут казачная сіла,*
*Без якой бы гэта пушча не гула,*
*Без якой у песні не ўзняліся б крылы,*
*Без якой у сэрцы не было б святла.*

Вось вам і паэтычны адказ на гэтае пытанне словамі народнага паэта Беларусі Максіма Танка.

**Гутарку вяла Вольга БУРЛО**

***Паважаная Марыя Георгіеўна! Рэдакцыя газеты "Культура" ад усяго сэрца віншуе Вас з юбілеем і жадае Вам моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, новых цікавых творчых работ і добрага настрою. Усяго Вам найлепшага!***

КУЛЬТУРА
**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**
Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП, Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Алесь ЧАЙКА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 25.11.96. у 18.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2680
Замова 1283
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**